8 студзеня 2016 | № 1 (466)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Ружовае рэтра
стар. 5

2 АХВЯРА ДЗЯРЖЗАБУДОЎШЧЫКА: НІ ЖЫЛЛЯ, НІ ГРОШАЙ

Суды, страта грошай і высяленне. Такім шокам для маці дваіх дзяцей стала набыццё кватэры ў дзяржзабудоўшчыка.



6 ТРЭБА ВУЧЫЦЦА СМЯЯЦЦА З СЯБЕ

Шмат гадоў культуролаг Вацлаў Арэшка асэнсоўвае шляхі захавання беларускай нацыі. Чытачам НЧ ён распавядае пра свае вытокі, грамадзянскае сталенне і высновы, якія ён зрабіў за дзесяцігоддзі працы на ніве беларушчыны

9 ЮАНЬ — ЁН І Ў АФРЫЦЫ ЮАНЬ

Улады Зімбабвэ абвясцілі аб пачатку выкарыстання кітайскіх грошай унутры краіны. Пераход на юань афрыканскіх краін: прэцэдэнт або тэндэнцыя?

10 НЕВЯЛІЧКІ ПОМНІК Я САБЕ ЎЖО ПАСТАВІЎ

На жаль, мы мала расказваем пра калегаў па журналісцкім цэху. А сярод нас шмат тых, каму ёсць што прыгадаць. Сёння дзеліцца сваімі ўспамінамі і ўражаннямі ад пражытага Дзмітрый Падбярэзскі



# Як Новы год сустрэнеш…

## Так яго і правядзеш. У 2016-м гэтая прыкмета не абяцае беларусам нічога добрага



Сяргей ПУЛЬША

**Першы дзень новага года прынёс беларусам непрыемныя падарункі. Найперш, прадпрымальнікам і студэнтам БДУ.**

Уступіў у дзеянне ўказ №222 «Аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі». З 1 студзеня ІП павінны рэалізоўваць прадукцыю легпрама, увезеную з краін Мытнага саюза, толькі з суправаджальнымі дакументамі. Праблема ў тым, што расійскія пастаўшчыкі, у якіх закупляе тавар большасць беларускіх ІП, як правіла, адмаўляюцца выдаваць дакументы аб паходжанні прадукцыі альбо прадастаўляюць фіктыўныя даведкі. У выніку ІП штрафуюць і канфіскоўваюць у іх тавар.

Варта зазначыць, што норма аб суправаджальных дакументах у МС дзейнічае толькі для беларускіх прадпрымальнікаў. Іншыя краіны — Расія і Казахстан, — на гэтае палажэнне ўвагі не звяртаюць. Там мяркуюць, што пацвярджаць якасць прадукцыі і яе паходжанне павінен вытворца, а не прадпрымальнік.

Гэта ўжо прывяло да таго, што большасць рэчавых рынкаў краіны спынілі працу. Як гэта адаб'ецца на агульным эканамічным стане, сказаць цяжка. Але тое, што лозунг «Купляйце беларускае!» наўрад ці спрацуе, можна сказаць з упэўненасцю. Хутчэй за ўсё, грамадзяне ў пошуках таннага і якаснага пачнуць ездзіць у звыклыя Польшчу, Расію ды Украіну. Што, у сваю чаргу, прывядзе да вывазу валюты і далейшага рост курсу долара і еўра. Пацерпяць і мясцовыя бюджэты: напрыклад, ІП укладалі ў бюджэт Мінска каля 2% ад яго агульнага аб'ёму. Бачна, зыходзячы з гэтай страты сталічная казна сфармаваная на 2016 год з дэфіцытам.

З 1 студзеня ў БДУ ўступае ў сілу палажэнне пра платныя пераздачы. Студэнты так і не дамагліся яго адмены. Асабліва яно непрыемнае для тых, хто да Новага года не змог здаць залікі.

Зноў жа з 1 студзеня ўзрасла базавая велічыня — са 180 да 210 тысяч рублёў. Гэта таксама кепская навіна для ўсіх, бо ад «базавай» залежаць розныя падаткі, зборы і штрафы. Гэта значыць, падаражэюць паслугі натарыяту і ЗАГСаў, — даражэй стане ажаніцца і развесціся. Павялічваецца і так званы «аўтазбор» за допуск машыны да дарожнага руху. Штрафы за безбілетны праезд і г.д.

У студзені пацяжэе жыроўка: па новых тарыфах, якія павысіліся ў снежні мінулага года, мы больш заплацім за камунальныя паслугі. Павелічэнне закранула газ, электрычную і цеплавую энергію.

Пры гэтым нам зноў кажуць, што насельніцтва пакрывае не больш за 30% кошту затрат, звязаных з аказаннем жыллёва-камунальных паслуг. Але нават кіраўніку дзяржавы, нягледзячы на ягонае патрабаванне, не прадставілі поўнага каштарысу паслуг ЖКГ. Тым не менш у 2017 годзе ўрад разлічвае выйсці на поўную аплату насельніцтвам паслуг ЖКГ за кошт павелічэння і змены методыкі разліку тарыфаў. Так што ЖКГ у гэтым годзе будзе даражэць і даражэць.

З уводам у дзеянне новай рэдакцыі Падатковага кодэкса плануецца адмяніць больш за паўтара дзясятка падатковых




**Нас адразу папярэдзілі — гэты год будзе складаны**

ільгот. Напрыклад, прадугледжваецца адмена льготы па падаходным падатку ў адносінах да даходаў фізічных асоб з выйгрышаў ад арганізатараў азартных гульняў. Але пацерпяць не толькі самыя багатыя, у якіх ёсць грошы на азарт, але і самыя бедныя, бо адмяняецца вызваленне ад падаткаабкладання прыбытку ад рэалізацыі выпрабленай сельскагаспадарчай прадукцыі.

Гэта значыць, бабулькі на рынках, што гандлююць уласнавырашчанай садавінай і гароднінай, павінны будуць плаціць падатак з тых капеек, якія яны атрымаюць ад продажу цыбулі ці кропу. Як гэта будзе рэалізавана на практыцы — невядома. Можа быць, інспектары Міністэрства па падатках і зборах масава пойдуць на паляванне за гэтымі бабулямі. А што? Такія рэйды ўжо адпрацаваныя ў барацьбе з ІП, якія, як згадвалася, працу амаль спынілі.

Новая рэдакцыя Падатковага кодэкса таксама прадугледжвае адмену льготы па ПДВ у дачыненні да паслуг энергазабяспечвальных і газазабяспечвальных арганізацый для патрэб насельніцтва. ПДВ заплаціць насельніцтва, гэта значыць, для беларусаў паслуга стане даражэй на 20%.

З фізічных асоб, у дачыненні да якіх будзе ўстаноўлена перавышэнне фактычных выдаткаў над афіцыйнымі даходамі, з 2016 года будзе спаганяцца падаходны падатак па стаўцы 16%.

Зразумела, што не ад добрага жыцця ўлады спрабуюць залезці ў кішэню ўжо не толькі нібыта багатых, але і самых бедных шэрагаў насельніцтва. Так, нас адразу папярэдзілі, што гэты год будзе складаны. Але наколькі складаны, мы можам уявіць пакуль толькі па навагодніх «падаруначчках». І, падаецца мне, што ў гэтым годзе рана праводзіць грашовую рэформу і ўводзіць манеты. Хіба што — іх зручней кідаць у шапку жабракам.

# ІП пакуль толькі ціха бунтуюць

Юрась ДУБІНА

**Па Беларусі пракацілася хваля стыхійных сходаў індывідуальных прадпрымальнікаў, якія пратэстуюць супраць фактычнай страты працы.**

Прэзідэнцкі ўказ №222, які ўступіў у сілу з 1 студзеня 2016 года і які забараняе гандляваць таварам без накладных і сертыфікатаў, фактычна пазбавіў працы каля 120 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў, а разам з сем'ямі армія «тунеядцаў» можа аднамомантна прырасці недзе на паўмільёна.

Паводле падлікаў РГА «Перспектыва», 70–90 працэнтаў індывідуальных прадпрымальнікаў Беларусі, якія гандлююць нехарчовай групай тавараў, з 1 студзеня спынілі працу. Адміністрацыя рынкаў і мясцовая вертыкаль займаецца ці то падманам, ці то самападманам і заяўляе, што ІП сышлі ў калядныя адпачынкі. Якія адпачынкі, калі паслянавагодні перыяд — адзін з самых спрыяльных для бізнесу. Тым больш, што падаткі аплачаны на месяц наперад.

Аднак рынкі стаяць. Мінск фактычна стаў цалкам, Барысаў, Наваполацк, Орша, Гомель — адразу і не пералічыць усе гарады, дзе прадпрымальнікі спынілі працу. Напрыклад, 5 студзеня на буйнейшым рынку Магілёва — «Віленскім» прайшоў стыхійны сход. Прадпрымальнікаў было нямнога. Аднак прысутныя запатрабавалі адмяніць прэзідэнцкі ўказ №222, адначасова адмежаваўшыся ад палітыкі.

Гомельскія прадпрымальнікі збіраліся таксама 5 студзеня ў ГЦ «Сакрэт». Як сказала прадпрымальніца Наталля Даська, «мы сабраліся сёння не таму, што нам добра, а каб выказаць свае пажаданні ўраду. Мы нічога ў дзяржавы не просім. Нам не трэба ні грошай, ні падтрымкі — проста дайце нам спакойна працаваць».

Фактычна такія ж лозунгі агучаныя ў Слоніме, у Оршы, у іншых беларускіх гарадах.

— Чыноўнікі з міністэрства гандлю заяўляюць, што прадпрымальнікі сышлі ў калядныя адпачынкі. Пасля такіх заяў з'яўляюцца сумненні, што гэтыя чыноўнікі працуюць у Мінгандлю. Падаткі за студзень не сплачаныя — гэта значыць, што месяц рынкі працаваць не будуць. Прадпрымальнікі настроеныя так: дзеля чаго я буду рызыкаваць, каб падатковая мяне збанкрутавала? Больш за тое, час, калі ўвесь астатні народ святкуе навагодне-калядныя святы, самы спрыяльны перыяд у годзе, каб весці бізнес прадпрымальнікам, — кажа лідар РГА «Перспектыва» Анатоль Шумчанка.

Рынкі стаяць, улады робяць выгляд, што сітуацыя развіваецца па плану. Што рабіць у гэтай сітуацыі?

11 студзеня ў Мінску пройдзе антыкрызісны Форум прадпрымальнікаў, на якім прадпрымальнікі плануюць вырашыць, што рабіць далей. Папярэдні форум, які адбыўся 14 снежня 2015 года, вылучыў шэраг патрабаванняў да ўладаў: адмяніць указ № 222 і вярнуцца да ранейшых умоваў дзейнасці ІП; увесці пяцігадовы мараторый на канфіскацыі і праверкі ў межах тэхрэгламенту Мытнага саюза па лёгкай прамысловасці; паменшыць намаганнямі мясцовых саветаў дэпутатаў падаткі на 50–70% да таго часу, пакуль сярэдняя зарплата не дасягне 1 тысячы долараў; паменшыць памеры штрафаў напалову і спыніць практыку канфіскацыі тавараў, калі не даказана іх крымінальнае паходжанне; спыніць практыку напаўнення бюджэту праз канфіскацыі; дазволіць прадпрымальнікам устанаўліваць тэрміналы на добраахвотнай аснове; унесці змены, пры якіх ІП не абавязаны выплачваць узносы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, калі яны не вядуць гаспадарчай дзейнасці; прызнаць укараненне RFID-пазнак на футравыя вырабы заўчасным; адмяніць пастанову ўрада № 666 аб дзяржаўнай санітарна-гігіенічнай экспертызе прадукцыі замежнай вытворчасці для ІП і юрыдычных асоб.

Рэакцыя ўрада вядомая: «прадпрымальнікі сышлі на калядныя вакацыі».

— Перамоўны працэс, які прадпрымальніцкія структуры вялі з органамі ўлады лістапад-снежань, нічога не даў. Усе лісты, звароты не далі ніякай карысці. Калі прадпрымальнікі зразумеюць, што спадзявацца няма на каго, акрамя саміх сябе, тады яны стануць злейшымі, — мяркуе дырэктар аналітычнага цэнтра Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Анатоль Змітровіч.

РГА «Перспектыва» заклікае ўрад «вярнуцца на дарогу розуму і прыняць своечасовыя адэкватныя рашэнні з улікам меркаванняў самых прадпрымальнікаў».

— Праблему трэба вырашаць, а не абыходзіць яе. І вырашаць яе трэба нармальным цывілізаваным шляхам — шляхам перамоў, цывілізаванага дыялогу. Чыноўнікі, прыходзьце на форум прадпрымальнікаў, размаўляйце з людзьмі, не прымушайце іх выходзіць на вуліцу, — заклікае органы ўлады Анатоль Шумчанка.

Пакуль ніхто не бярэцца прагназаваць развіццё сітуацыі. Пратэстныя настроі надзвычай высокія, але ў што яны выльюцца — залежыць найперш ад дзеянняў уладаў.

# Ні жылля, ні грошай

Ксенія ЛІТВІНОЎСКАЯ

**Суды, страта грошай і высяленне. Такім шокам для маці дваіх дзяцей стала набыццё кватэры ў дзяржзабудоўшчыка.**

Маргарыта купіла чатырохпакаёвую кватэру ў «МаналітГрада» па вуліцы Янкоўскага, 34, прадаўшы сваю двухпакаёўку. Здзелку ў сакавіку 2014 года афіцыйна афармілі ў БРТІ. Аднак неўзабаве раптоўна аб'явіўся дольшчык, які прад'явіў правы на кватэру.

— Ён пазваніў мне, сказаў, што гэта яго кватэра і ён будзе са мной судзіцца, — распавяла Маргарыта Крывіцкая.

Як высветлілася, «МаналітГрад» скасаваў дамову з дольшчыкам, які не стаў выплачваць дадатковыя грошы пасля пераразліку. Аднак выдаткі дольшчыку не былі вернуты.

Суд Партызанскага раёна двойчы разглядаў справу дольшчыка, які падаў позву пасля продажу кватэры. Пры першым разглядзе дольшчыку адмовілі. Але пры паўторным разглядзе суд вынес рашэнне аб незаконным продажы кватэры. А дольшчык пагадзіўся даплаціць неабходную суму.

— Ёсць рашэнне суда, і дольшчык мае поўнае права прыйсці і выселіць мяне. Куды мяне будуць высяляць — з дзіцём непаўналетнім, з дачкой-студэнткай? Куды высяляць? Вось куды?! Я не ўяўляю, як так можна.

Забудоўшчыка абавязалі вярнуць Маргарыце грошы за кватэру. Нават з улікам індэксацыі — 992 мільёны рублёў (альбо 101 тысяча долараў на момант здзелкі) менш чым за паўтара гады ператварыліся ў 64 тысячы долараў.

— Няма ніякіх гарантый, што я наогул атрымаю гэты грошы, — адзначыла Маргарыта.

У «МаналітГрада» — чэргі кліентаў за запазычанасцямі па іншых справах. Кампанія дыскрэдытавала сябе ў будаўнічым бізнесе. Адзін з яе кіраўнікоў, якія мянялі раз за разам, быў арыштаваны пры атрыманні хабару «ў асабліва буйным памеры». Будучае ў кампаніі адно — ліквідацыя.

— Дзяржава абрабавала, забрала ў мяне ўсё. І цяпер я баюся застацца проста на вуліцы. Гэта проста дзікунства. Як у нашай краіне гэта можа быць?! — не разумее Маргарыта Крывіцкая.

Да таго ж Маргарыту, якая сама стала ахвярай у гэтай гісторыі, зрабілі адказчыкам па справе, як і забудоўшчыка. І абавязалі заплаціць дзяржпошліну — 25 мільёнаў рублёў, а таксама судовыя расходы дольшчыка ў памеры 13 мільёнаў. Аспрэчванне рашэння і падача скаргаў вымагае новых выдаткаў.

— Гэта стрэс для ўсёй сям'і. У майго сына — псарыяз. Я не магу заняцца яго лячэннем, у мяне няма магчымасцей. Таму што ўсе затраты ідуць на судовыя выдаткі, — кажа Маргарыта. — Для таго, каб мне падаць скаргі і дайсці да Вярхоўнага суда, трэба заплаціць 50–60 мільёнаў рублёў. Гэта шалёныя грошы, я не ўяўляю, што рабіць.

Адмыслоўцы адзначаюць, што ў рашэнні гэтай справы ёсць розныя варыянты. Суд мог абавязаць забудоўшчыка вярнуць грошы дольшчыку з улікам індэксацыі. Тым больш што ў дольшчыка ўжо ёсць трохпакаёвая кватэра, а ў яго жонкі — двухпакаёвая. Альбо прадаставіць яму іншую кватэру. «Чамусьці суд разглядаў справу вельмі аднабока, і разглядаў толькі варыянт скасавання дамовы куплі-продажу», — падкрэсліў гендырэктар цэнтра гандлю нерухомасцю «ПАКОДАН» Павел Кузняцоў.

Маргарыта Крывіцкая не губляе надзеі і збіраецца звяртацца ва ўсе магчымыя інстанцыі.

— Хочацца справядлівасці ў гэтым рашэнні. Таму што ну так не бывае, каб проста ўзяць, выкінуць людзей на вуліцу. Таму мы будзем змагацца і пойдзем да канца, — кажа Маргарыта.

Сваё запаветнае жаданне загадаў і 13-гадовы Арцём: «У новым годзе я б хацеў, каб усе нашы жахлівыя праблемы вырашыліся. Каб у нас было жыллё, і нас не выганялі на вуліцу».

# Выбіраць шлях нам самім

**Ізаляцыя Беларусі сябе не апраўдала. Такое меркаванне выказаў кіраўнік МЗС Літвы Лінас Лінкявічус.**

Дыпламат заявіў, што ЕС мае агульную стратэгію наконт Беларусі, і Літва ўплывае на фармаванне гэтай стратэгіі. «Раней было чаканне і назіранне за тым, што будзе. А яшчэ раней — будаўніцтва сцен і наогул ізаляцыя, што наўрад ці сябе апраўдала. Бо гэтая ізаляцыя, як паказвае практыка, абмяжоўвае не функцыяванне краіны, а абмяжоўвае сваё ўздзеянне, магчымасць для кантактаў. І мы даказалі, што кантакты і наша ўздзеянне насамрэч далі пэўны вынік. Гэта частка стратэгіі — крыху раскрыцца, даць пэўную матывацыю для зменаў, аслабіць сродкі ціску», — перадае delfi.lt словы Лінкявічуса.

Разам з тым літоўскі міністр падкрэсліў, што ніхто не плануе нічога рабіць за Беларусь, у тым ліку праводзіць за яе рэформы і выбіраць шлях развіцця. Але ёсць надзея, што беларуская дзяржава будзе мяняцца ў выніку супрацоўніцтва з заходнімі краінамі.

Лінкявічус паведаміў, што Арменія, якая ўвайшла ў Мытны саюз, хоча стварыць спецыяльнае пагадненне з ЕС. Ёсць такі намер, па яго словах, і ў Беларусі. «Любая форма, якая пасуе нашым суседзям мець зносіны з ЕС, гаварыць, знаходзіць агульныя інтарэсы, асабліва з умовай не забываць важнейшыя прынцыпы і каштоўнасці дэмакратыі, не вяртацца да гвалту, што мы ўжо бачылі і не хочам, каб гэта паўтарылася. Гэта ўмова, а ўсё астатняе — частка стратэгіі, працэс».

**Паводле euroradio.fm**

# Выявілі парушэнні — чакайце суд

**Новы год для грамадскіх актывістаў Рыгора Грыка і Аляксандра Вайцешыка з Баранавічаў пачаўся з абвінавачання ў дробным хуліганстве.**

У пратаколе, які быў складзены на актывістаў, указваецца, што «22 снежня, знаходзячыся ў краме «Марцін Інн Фуд», з хуліганскіх намераў выражалі яўную непавагу да грамадства, перагарадзіўшы праход паміж касамі вазком. Гэтым здзейснілі дзеянні, якія парушылі спакой пакупнікоў і дзейнасць указанай вышэй крамы». У пратаколе напісана, што сведкам хуліганскіх дзеянняў з'яўляецца дырэктар крамы Вольга Борыс.

Пратакол адміністрацыйнага правапарушэння складаўся ў адсутнасць Рыгора Грыка і Аляксандра Вайцешыка, і з абвінавачаннем яны не згодны.

Сапраўды, у той дзень яны зрабілі так званую «кантрольную закупку» і стаялі каля касы з вазком з пратэрмінаванымі прадуктамі. Актывісты выклікалі міліцыю, санэпідстанцыю і прадстаўнікоў гарвыканкама. Пратэрмінаваныя прадукты былі зафіксаваны адпаведнымі дзяржаўнымі службамі. Многія прадукты, пакуль ехалі выкліканыя службы, зніклі з паліц і прылаўкаў і заменены свежымі.

Тым часам актывісты на сваю скаргу ў Міністэрства гандлю РБ наконт сітуацыі з пратэрмінаваным таварам у краме «Марцін Інн Фуд» атрымалі адказ, што пазапланавая праверка сеткі крамаў «Марцін Інн Фуд» па ўсёй Беларусі выявіла шэраг парушэнняў правілаў гандлю і знята з продажу 17 найменняў пратэрмінаваных прадуктовых тавараў. Пачаты адміністрацыйны працэс у адносінах да адказных асоб у гэтых крамах.

А Рыгора Грыка і Аляксандра Вайцешыка таксама чакае суд.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хутчэй працаваць!

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Большасць жыхароў нашай краіны, нягледзячы на першыя тры ўмоўна працоўныя дні новага года, працягваюць адпачываць. Але, як заўсёды, менавіта адпачынак — час прыняцця і абмеркавання малапапулярных рашэнняў. Выйдуць людзі на працу — і яны ўжо жывуць па новых правілах. Нічога не зробіш!**

Усім ужо вядомая сітуацыя з прадпрымальнікамі, якім з першых дзён новага года ўлады фактычна забаранілі прадаваць сваю прадукцыю без сертыфікатаў Мытнага саюза. «Вымушаны адпачынак», аказваецца, можа быць не толькі на «флагманах беларускай індустрыі», якія збольшага далі сваім працоўным вакацыі да 11-га студзеня, але і ў тых, хто хоча і жадае працаваць.

Паводле звестак прадпрымальніцкага РГА «Перспектыва», на працу не выходзяць каля 90% прадпрымальнікаў па ўсёй краіне. Зачыненыя большасць павільёнаў у сталічных гандлёвых цэнтрах «Паркінг», «Еўропа», «Ждановічы», «Шчасце», «Экспабел», «Манетка», а таксама на рынках. Інфармацыя пра тое, што ІП не выйшлі на працу, паступае з Віцебска, Гомеля, Брэста, Рагачова, Наваполацка, Глыбокага, Ліды, Маладзечна, Барысава і іншых гарадоў. Некаторыя СМІ расцанілі гэта як «калапс рознічнага спажывецкага рынка ў Беларусі», што блізка да праўды.

Аднак СМІ — не чыноўнікі. У размове з лідарам «Перспектывы» Анатолем Шумчанкам некаторыя з чыноўнікаў казалі: «Нічога экстрэмальнага. Гэта проста калядны адпачынак у бізнесоўцаў». Бачна, тыя чыноўнікі затаварваюцца выключна ў дзяржаўных крамах і носяць выключна беларускае. Бо і вожыку зразумела, што самыя працоўныя дні ў ІПшнікаў — гэта якраз святочныя і выходныя дні. Калі народ, не абцяжараны працай, можа сабе дазволіць паўдня правесці на рынку, выбіраючы патрэбную рэч.

Патрабаванні адмены ўказа №222, які дазваляе прадпрымальнікам прадаваць прадукцыю легпрама, увезеную з краін Мытнага саюза, толькі з суправаджальнымі дакументамі, ужо даўно адпраўленыя ва ўрад, Адміністрацыю прэзідэнта і іншыя адказныя ўстановы. На 11 студзеня плануецца чарговы антыкрызісны прадпрымальніцкі форум. Паглядзім, ці здолеюць ІПшнікі пераканаць уладу, што яны патрэбныя народу?

Не толькі дробным гандлярам не пашанцавала. Чамусьці менавіта ў калядныя святы пачалася актыўная апрацоўка насельніцтва наконт павышэння ў краіне пенсійнага ўзросту. Праўда, намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення пенсійнага забеспячэння Мінпрацы Ларыса Яшкова на сустрэчы з журналістамі сказала, што, калі пенсійны ўзрост падымецца, то не ў гэтым годзе. «Казаць пра тое, што ў бягучым годзе адназначна такое рашэнне будзе прынятае ці не, пакуль рана, — заявіла яна на прэс-канферэнцыі 4 студзеня. — Напэўна, у будучыні мы гэтае пытанне будзем узнімаць».

Тым не менш, Яшкова зазначыла, што цяпер пенсіянеры ў Беларусі складаюць 27% насельніцтва, а да 2020 года іх колькасць, як мяркуецца, складзе 29%. Чвэрць пенсіянераў, па яе дадзеных, працягваюць працаваць.

«На постсавецкай прасторы засталіся толькі тры дзяржавы з ранейшым пенсійным узростам — 60 гадоў для мужчын і 55 гадоў для жанчын — гэта Рэспубліка Беларусь, Расійская Федэрацыя і Узбекістан. Разам з тым з саюзных часоў шмат што змянілася — вырасла і працягвае расці працягласць жыцця. Сёння пенсійны ўзрост — гэта не той узрост, які не дазваляе чалавеку паўнавартасна працаваць. Мы добра бачым, што жанчына ў 55 гадоў — гэта не пенсіянерка», — адзначыла Яшкова.

**27 %**
**насельніцтва Беларусі складаюць пенсіянеры. А да 2020 года колькасць людзей пенсійнага ўзросту, па разліках спецыялістаў, складзе ўжо 29% ад агульнага насельніцтва нашай краіны**

Сапраўды, трацiна пенсіянераў у краіне — гэта вялізны цяжар для дзяржавы. Але ж гэтыя людзі ўсё жыццё працавалі, сплачвалі падаткі і напаўнялі пенсійны фонд таксама. Павышэнне пенсійнага ўзросту — гэта толькі адзін з крокаў. Трэба не проста гэты ўзрост павышаць — трэба ўвогуле рэфармаваць сістэму пенсійнага забеспячэння, ці хаця б уводзіць накапляльныя пенсіі. Тады і дзяржаве не так цяжка будзе…

Цікава падняў гэтую праблему Інстытут сацыялогіі НАН РБ. Па словах дырэктара гэтай установы, Ігара Катлярова, ягоная структура вывучыць меркаванне насельніцтва аб магчымым павышэнні пенсійнага ўзросту падчас рэгулярнага апытання ў сакавіку. Аднак ягоная падначаленая, загадчыца аддзела сацыялогіі сацыяльных інавацый Віялета Шухатовіч, аказалася больш языкатай. Яна сказала, што «на самай справе, усе бачаць і ўсе ведаюць, які ўзрост выхаду на пенсію ў нашых суседзяў, усе ведаюць эканамічную сітуацыю ў Беларусі, таму я б сказала так: людзям не хацелася б гэтага павышэння, але яны з разуменнем ставяцца да таго, што пенсійны ўзрост будуць павышаць».

Адкуль яна ведае пра «разуменне» народу, калі апытанне будзе толькі ў сакавіку? Аказваецца, з 2013-га года. «Згодна з нашымі апытаннямі, прыкладна 18% насельніцтва, якое працуе, у 2013 годзе зазначылі, што яны гатовыя адкласці ўзрост выхаду на пенсію з умовай павышэння пенсіі», — сказала сацыёлаг. Паводле яе слоў, «большая частка насельніцтва, якое працуе, гатовая да таго, што гэты ўзрост павысіцца на год». «Вядома ж, гэтыя змены не павінны быць рэзкімі, але калі сапраўды ўзнікне такая фінансавая неабходнасць, і яна ўжо абмяркоўваецца, то да гэтага паступовага пераходу наша насельніцтва гатовае, але менавіта да паступовага», — падкрэсліла Шухатовіч.

Добрая славесная эквілібрыстыка. Тут і 18% ператварыліся ў «большую частку насельніцтва», і «ўмова павышэння пенсіі» — невядома што. Наколькі павінна павысіцца пенсія канкрэтна, каб чалавек пагадзіўся працаваць далей? І зазначым такую цытату: «калі сапраўды ўзнікне такая фінансавая неабходнасць, і яна ўжо абмяркоўваецца». Абмяркоўваецца — гэта значыць, яна ўжо ўзнікла. Ну і зноў жа пра «гатовае да павышэння пенсійнага ўзросту насельніцтва»: адкуль спадарыня Шухатовіч пра гэта ведае? Апытанне ж будзе толькі праз тры месяцы?

Гэтыя заявы, насамрэч, — падрыхтоўка грамадскай думкі да павышэння пенсійнага ўзросту. Паступовым яно будзе ці імгненным — рэч другасная. Наш народ ужо прызвычаіўся: калі чыноўнікі кажуць, што нешта не адбудзецца — адбудзецца абавязкова.

Так што трэба хутчэй выходзіць на працу. Тады будзе меней падставаў для рознага кшталту «непапулярных рашэнняў».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Максім Вінярскі

**Актывіст кампаніі «Еўрапейская Беларусь» атрымаў першы буйны «палітычны» штраф у гэтым годзе.**



Максім Вінярскі прызнаны судом вінаватым адразу ў двух адміністрацыйных правапарушэннях і прыцягнуты да адказнасці ў выглядзе штрафу ў 70 базавых велічынь (14 мільёнаў 700 тысяч рублёў). Такое рашэнне вынесла 5 студзеня суддзя суда Маскоўскага раёна Мінска Таццяна Мотыль.

Вінярскі абвінавачваўся на падставе ч. 3 арт. 23.34 КоАП (парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў, учыненае паўторна на працягу года) за ўдзел у студэнцкім маршы 2 снежня 2015 года. Удзельнікі акцыі патрабавалі ад кіраўніцтва Белдзяржуніверсітэта адмены платных пераздачаў і адпрацовак, спынення ціску на актывістаў студэнцкага руху і стварэння органа рэальнага студэнцкага самакіравання.

Падчас разгляду справы Вінярскага суддзя Мотыль распачала ў дачыненні да яго яшчэ адну справу — на падставе ч. 1 арт. 24 КоАП (непавага да суда).

Максім даў адвод суддзі Мотыль, бо яна неаднаразова судзіла яго, стаўленне да яго прадузятае. Мотыль адвод адхіліла. Тады Максім адмовіўся ўставаць для давання паказанняў, сказаўшы, што не ўспрымае яе як суддзю. На гэта Мотыль заявіла, што распачынае да Максіма адміністрацыйную справу за непавагу да суда.

## Аляксандр Косінец

**Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта павесяліў народ у святы, адначасова паспрабаваўшы прыўзняцца ў вачах свайго шэфа.**



Уінтэрв'ю праграме «Контуры» тэлеканала ОНТ, паказаным увечары 3 студзеня, Косінец сказаў, што «чалавек, які паверыў гэтай праграме, і амаль усе пайшлі за ім — гэта прэзідэнт… Уся краіна працавала над гэтым поспехам… Практычна штохвілінна гэтая праграма знаходзілася ў полі зроку прэзідэнта».

«На гэты момант (інтэрв'ю было дадзена ў Оршы 31 снежня 2015 года) у краіне нарадзілася 118 700 дзяцей, прыблізна такая ж колькасць людзей памерла. У выніку міграцыйных працэсаў у Беларусь прыехала крыху больш за 18,5 тысячы чалавек», — распавёў Косінец.

Ён заявіў: «Практычна ні адна дзяржава ў свеце за такі кароткі прамежак часу не забяспечвала сціск дэмаграфічных нажніц. Пралічвалася, што да 2015 года ў краіне будзе 8,5 мільёна чалавек. Сёння ў краіне 9,5 мільёна чалавек».

Канешне, куды ж тут без Аляксандра Рыгоравіча!

## Вікторыя Азаранка

**Славутая беларуская тэнісістка пасля адпачынку даволі ўпэўнена пачала сезон.**



Азаранка без барацьбы выйшла ў трэці раунд тэніснага турніру катэгорыі «Прэм'ер» у аўстралійскім Брысбене. У першым крузе Азаранка ўпэўнена перайграла ў двух сэтах расіянку Алену Весніну, у другім крузе не здолела сустрэцца з румынкай Сымонай Халеп: тая не выйшла на корт з-за траўмы левай нагі. Акрамя Халеп знялася з турніру і расіянка Марыя Шарапава.

Аднак галоўным выпрабаваннем для яе стане Australian Open, які пройдзе з 19 па 31 студзеня ў Мельбурне. Азаранка выйгравала гэты турнір двойчы.

Букмекеры, якія прымаюць стаўкі на Australian Open, зараз аддаюць перавагу Серэне Уільямс. Каэфіцыент на перамогу амерыканкі — 3.0. Вікторыя Азаранка — другая прэтэндэнтка на перамогу, букмекеры ацэньваюць яе значэннем 7.5. Беларуска, такім чынам, апярэджвае Марыю Шарапаву (9.0) і Сымону Халеп (9.0). Абедзве, нагадаем, зняліся ў Брысбене з-за траўмаў.

Настрой у Вікторыі бадзёры. «Я лічу, што ўсё лепшае ў мяне яшчэ наперадзе. Я шмат працую над сваёй гульнёй і ўсім астатнім. Час пакажа, што з гэтага выйдзе. Што было, тое было, і казаць пра гэта бессэнсоўна. Нагаманіліся ўжо», — цытуе 26-гадовую тэнісістку Yahoo.

# Адзінства апазіцыі: новыя шансы ці старыя граблі

Сяргей ПУЛЬША

**Беларуская апазіцыя ўсведамляе — без адзінства нікуды. Але ад гэтага ўсведамлення ў палітычнай прасторы мала што зьмяняецца. Ці атрымаецца дасягнуць адзінства 2016 годзе? Сумневаў пакуль што больш, чым спадзяванняў.**



Фота: bymedia.net

## Зноў Кангрэс

Напрыканцы ўжо мінулага года прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, сярод якіх былі Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Анатоль Вярцінскі, Зінаіда Бандарэнка, Аляксей Марачкін, Лявон Баршчэўскі, Віктар Казько, Уладзімір Арлоў і іншыя, выступілі з прапановай правесці Кангрэс дэмакратычных сілаў.

Па іх меркаванні, Кангрэс павінен выпрацаваць сумесную пазіцыю датычна маючых адбыцца ў 2016 годзе парламенцкіх выбараў і да тых палітычных працэсаў, якія вызначылі ў апошні час у адносінах паміж Беларуссю і Еўрасаюзам. А таксама дапаможа апазіцыі выпрацаваць «сумесны план дзеянняў, замацаваны абавязковымі для ўсіх рашэннямі Кангрэса», што, на думку падпісантаў, «можа выправіць сітуацыю: вывесці апазіцыю з крызісу, вярнуць ёй палітычную вагу, давер унутры краіны і за яе межамі». «Гэта цяжка, але яшчэ магчыма зрабіць, калі паставіць інтарэсы Беларусі вышэй інтарэсаў партый, рухаў, асабістых інтарэсаў», — адзначаюць аўтары звароту.

Кангрэс павінен прайсці «з шырокім удзелам грамадзянскай супольнасці». «Гэта неабходна зрабіць не толькі дзеля кансалідацыі апазіцыі — дзеля нацыянальнай згоды. Бо пры той нязгодзе, якая ёсць зараз у нашым беларускім доме, мы не толькі не дойдзем да Беларусі, пра якую марым, а можам страціць нават тую, што маем», — падкрэслілі прадстаўнікі інтэлігенцыі.

## Хто больш роўны?

Ідэя правядзення кангрэсу добрая. Сапраўды, апазіцыі зараз не хапае сумеснай пазіцыі, хаця б у размовах з заходнімі партнёрамі і Еўрасаюзам. Сумняваюся, канешне, што сход дэмсілаў здолеў бы выпрацаваць нейкі «сумесны план дзеянняў, замацаваны абавязковымі для ўсіх рашэннямі Кангрэса». Проста таму, што, каб нешта зрабіць, трэба мець магчымасці гэта зрабіць. А якраз магчымасцяў у апазіцыі — кату па пяту. Так што «прарыву ў дзеяннях» чакаць не выпадае. Але хаця б сумесная пазіцыя ў дачыненні да выбараў, уладаў, магчымых шляхоў выхаду з крызісу і агульнае разуменне рэформаў — гэта было б ужо няблага.

Аднак ініцыятары Кангрэсу сказаўшы «а», не сказалі «б», і звыкла аддалі ідэю правядзення форума палітыкам.

Мікалай Статкевіч, Уладзімір Някляеў і Станіслаў Шушкевіч абвясцілі аб стварэнні аргкамітэта па падрыхтоўцы Кангрэса. У той жа дзень Статкевіч паведаміў, што ў аргкамітэт пагадзіліся ўвайсці Зміцер Дашкевіч, Вячаслаў Сіўчык, Андрэй Саннікаў і Генадзь Фядыніч. І адразу ж Статкевіч паведаміў інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН, што не будзе звяртацца з прапановай далучэння да Кангрэса да лідараў кампаніі «Гавары праўду» і Беларускай партыі левых «Справядлівы свет».

То бок, ідэя інтэлігенцыі пра «шырокі ўдзел грамадзянскай супольнасці» была звужаная да пэўных колаў палітычнай апазіцыі. Інтэлігенцыя меркавала, што «ўсе роўныя», але, як высветлілася, некаторыя аказаліся ўсё ж «больш роўныя» за астатніх.

Зразумела, у адказ кіраўніцтва «Гавары праўду» і «Справядлівага свету» зазначыла: удзельнічаць у Кангрэсе ім не вельмі і хацелася. «Наша пазіцыя вельмі простая: наперадзе парламенцкая кампанія, у грамадства ёсць запыт на перамены, трэба працаваць з ім, а не займацца ўнутрыапазіцыйнымі перамовамі», — сказаў БелаПАН каардынанар ГП Андрэй Дзмітрыеў. Кіраўнік аб’ядналых левых Сяргей Калякін увогуле не зразумеў, навошта патрэбны Кангрэс. Па яго словах, на ім можна альбо выбраць лідара напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі, альбо зацвердзіць праграму, якую падтрымлівае большасць у апазіцыі, напярэдадні парламенцкіх выбараў. «Цяпер у апазіцыі няма дамінуючай ідэі і стратэгіі, якія авалодалі б розумамі большасці, ідзе іх пошук. Правесці кангрэс, каб канстатаваць адсутнасць яднаючых ідэй і планаў, значыць паказаць недзеяздольнасць апазіцыі», — лічыць Калякін.

І дадаў, што ў правядзенні такога форума ёсць сэнс, калі ў ім прымаюць удзел усе апазіцыйныя сілы. «Выразанне нейкага элемента па палітычных меркаваннях прывядзе да дэвальвацыі гэтага мерапрыемства», — адзначыў Калякін.

## Вынік пад сумневам

Было б добра, калі б прадстаўнікі дэмакратычных сілаў на парламенцкія выбары пайшлі б «адной калонай». У ідэале можна было б вызначыць на Кангрэсе 110 кандыдатаў у Палату прадстаўнікоў, ці «спікераў», ці іншых асобаў, якія б прадставілі народу апазіцыю. Нават калі б іх было не 110, а 330, але пры гэтым яны б ішлі пад агульнымі лозунгамі і падтрымлівалі адзін аднаго, ствараючы моцную канкурэнцыю праўладнаму кандыдату — таксама было б някепска. Але і гэтую праблему Кангрэс наўрад ці вырашыць.

Проста таму, што парламенцкая кампанія ўжо, можна лічыць, пачалася. І чым далей (а Кангрэс, па задуме аргкамітэта, павінен прайсці ўвесну, да 25 сакавіка), тым мацней будзе «кропка незвароту» ў гэтай кампаніі.

Тая ж Таццяна Караткевіч з іншымі сябрамі «Гавары праўду» гойсае зараз па рэгіёнах, збіраючы свой спіс кандыдатаў у дэпутаты на парламенцкую кампанію. Далей за яе пайшлі сацыял-дэмакраты з БСДП (Грамада): яны ўжо абвясцілі не толькі пра 20 сябраў партыі, якія маюць намер прыняць удзел у якасці кандыдатаў на выбарах, але нават назвалі персаналіі: Алег Трусаў, Алег Волчак, Мечыслаў Грыб.

Партыя БНФ дзеля стратэгіі і свайго спіса на гэтых выбарах «замарозіла» ўдзел у правацэнтрысцкай кааліцыі.

Ці згодныя будуць гэтыя людзі паламаць усе свае ўжо зараз напрацаваныя планы дзеля яшчэ не зразумелых рашэнняў Кангрэсу, якія, па задуме ініцыятараў, будуць «абавязковымі для ўсіх»? Наўрад ці.

## І тым не менш

Ідэя кансалідацыі апазіцыі на Кангрэсе, канешне, добрая. Калі ён прадэманструе ўзаемаразуменне апазіцыі па асноўных пытаннях, напрыклад, у дачыненні да незалежнасці Беларусі альбо да змены Выбарчага кодэкса — гэта ўжо будзе добра. Прынамсі, будзе лягчэй размаўляць з заходнікамі, якія зараз увогуле не ведаюць, чаго ж тая апазіцыя хоча.

Але, найперш, для кансалідацыі трэба выканаць адну ўмову: запрашаць туды ўсіх. А не абіраць, хто найсвядомейшы са свядомых і найраўнейшы з роўных. Пакуль што, пасля прэзідэнцкіх выбараў, мы ўсе ў адной лужыне…



**Яшчэ ў школьныя гады Таццяна патрапіла на кнігу «Жаночая сексапаталогія» аднаго расійскага доктара, які прапаноўваў дастаткова жорсткія метады «лячэння» ад гомасексуальнасці**

# Ружовае рэтра

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Існаванне лесбіек і геяў у нашым грамадстве доўга замоўчвалася. Не дзіва, што знайсці крыніцы для даследавання жыцця ЛГБТ-людзей у БССР няпроста. І даводзіцца звяртацца да вуснай гісторыі: знайсці сведкаў і запісаць з імі інтэрв'ю.**

**Мае суразмоўцы — людзі ва ўзросце ад 40 да 50 гадоў (старэйшых знайсці значна цяжэй). Яны ўваходзілі ў дарослае жыццё ў часы перабудовы і першыя гады незалежнасці.**

## Свабодная прэса піша

Сярод іншых, я запісаў інтэрв'ю з Таццянай (імя зменена), якая ў апошнія гады жыве за межамі Беларусі. У канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў Таццяна атрымлівала вышэйшую адукацыю ў Гродне. Ад яе я даведаўся пра даволі цікавую гісторыю ўзаемадзеяння новай, значна больш свабоднай прэсы і гродзенскіх лесбіек.

Як узгадала Таццяна, у апошнія гады перабудовы «сталі пра гэта гаварыць. Пачалі паказваць па тэлевізіі нешта. Напрыклад, я тады пабачыла па пятым канале (ленінградскім) інтэрв'ю з дзвюма жанчынамі, якія жылі разам. У Гродна з'явіліся газеты «Молодёжный курьер» і «Перспектива», якія друкавалі абвесткі ў рубрыцы «Знаёмствы». І там былі таксама гейскія і лесбійскія абвесткі. І было цікава: ці знаходзіць хто? Ці гэта сама рэдакцыя складае абвесткі, каб падагрэць інтарэс да выдання?»

15 лістапада 1991 года газета «Перспектива» апублікавала ліст маладой жанчыны. Гэта была не прапанова пазнаёміцца, а просьба да рэдакцыі асвятляць «праблему сексуальных меншасцяў». Аўтарка ліста распавядала пра свой жыццёвы досвед і выказвала спадзяванні, што «кто-то посмелее создаст такое общество сексуальных меньшинств (как в Москве, Риге, Петербурге) здесь у нас, в Гродно».

Таццяна напісала адказ на гэты ліст, і адказ таксама быў апублікаваны (у нумары ад 29 лістапада). Публікацыя ліста суправаджалася рэдакцыйным каментаром, у якім выказвалася стаўленне рэдакцыі да тэмы: «В письме читательницы, опубликованном с сокращениями, содержалось сомнение относительно позиции редакции к поднятой проблеме, поэтому сразу же определимся. По нашему мнению, общество не может быть демократическим и правовым, если оно будет признавать лишь интересы большинства — национального, культурного, сексуального и т.д. С другой стороны, защита прав и интересов меньшинств — фундамент цивилизации, требование справедливости, независимо от того, нравится это кому-то или не нравится».

Нягледзячы на вельмі пазітыўныя дэкларацыі, рэальная рэдакцыйная палітыка была не настолькі прыязная да ЛГБТ. У тым самым нумары ад 15 лістапада, дзе быў апублікаваны першы ліст, рэдакцыя надрукавала і неподпісаны артыкул «Я — блудница». Чего еще не знаете о Мадонне». У гэтым артыкуле смакаваліся скандальныя падрабязнасці сексуальна разняволенага відэа вядомай амерыканскай спявачкі, пры тым да гомасексуалаў ужывалася слова «педэрасты».

Варта патлумачыць маладзейшым чытачам: у пачатку 1990-х гадоў слова «гомасексуаліст» і выраз «сексуальныя меншасці» лічыліся нейтральнымі, іх шырока ўжывалі самі геі і лесбійкі. А вось «педэраст» і тады гучала абразліва.

Гісторыя з лістамі ў газету мела працяг. Паколькі Таццяна выказала жаданне пазнаёміцца з аўтаркай папярэдняга ліста, то журналіст «Перспективы» Аляксандр Раманаў звязаўся з ёй і прапанаваў арганізаваць такую сустрэчу на «нейтральнай тэрыторыі». Сустрэча сапраўды адбылася, жанчыны пазнаёміліся, пераканаліся, што яны не адны такія ў Гродна. У далейшым яны падтрымлівалі сувязь, дзяліліся адна з адной «тэматычнымі» навінамі і весткамі.

Але Аляксандрам Раманавым, апрача шчырага жадання дапамагчы, кіраваў і прафесійны інтарэс. Па выніках сустрэчы ён стварыў яшчэ адзін матэрыял, які таксама быў апублікаваны ў рубрыцы чытацкіх лістоў пад назвай «Любить женщину — это естественно». Гэтая публікацыя адбылася ўжо ў студзені 1992 года. Матэрыял заканчваўся прапановай іншым лесбійкам дасылаць лісты па пэўным адрасе, каб пазнаёміцца. Адрасам гэтым з меркаванняў бяспекі быў выбраны хатні адрас журналіста Раманава.

Што да асобы журналіста, то ў 1968 годзе Раманаў і яго сябар Сяргей Каленчанка ў знак пратэсту супраць уводу войскаў СССР у Чэхаславакію сапсавалі партрэтную галерэю правадыроў КПСС у галоўным корпусе Гродзенскага педагагічнага інстытута. Студэнты Раманаў і Каленчанка атрымалі за сваю акцыю чатыры і тры гады зняволення адпаведна. У 1982 годзе Аляксандр Раманаў выпусціў самвыдавецкую кнігу апавяданняў «Пролетарии духа». Толькі ў гады перабудовы ён змог больш шырока рэалізаваць свае здольнасці. У прыватнасці, стаў аўтарам і рэдактарам газеты «Перспектива». Легендарны (не пабаюся гэтага слова) гарадзенец сёння напаўзабыты. Пра яго часам піша Юрый Камягін на сайце «Твой стыль», а Сяргей Каленчанка апублікаваў у інтэрнэце анталогію напісаных Раманавым мастацкіх тэкстаў.

## Знайсці немагчымае

Прыкладна ў той самы час у Таццяны быў першы раман з жанчынай, няўдалы. Яна спрабавала падзяліцца сваімі душэўнымі перажываннямі з суседкамі па пакоі ў інтэрнаце, але не знайшла разумення і падтрымкі. Сяброўкі асуджалі лесбійскае каханне, але хаця б паабяцалі «не распаўсюджвацца». «А ў інтэрнаце былі дзяўчаты, пра якіх чуткі хадзілі. І чуткі мелі глебу, то бок гэта была лесбійская пара. І іх усе асуджалі. Нібыта яны ледзь не прыстаюць да іншых проста ў душы. Тады мне было гэта вельмі дзіўна чуць, бо насамрэч вельмі дзіўна прыставаць у душы да кагосьці, калі ты жывеш у пары, табе гэта не трэба. Ты памылася і пайшла».

На гэтае грамадскае асуджэнне накладвалася знаёмства з сексалагічнай літаратурай застойных гадоў. Яшчэ ў школьныя гады Таццяна патрапіла на кнігу расійскага сексапатолага Абрама Свядашча «Жаночая сексапаталогія» (першае выданне — 1974 год). Доктар прапаноўваў дастаткова жорсткія метады «лячэння» ад гомасексуальнасці рознымі прэпаратамі (амміназін, апамарфін). Нядзіва, што ўражанні ад прачытання кнігі ў Таццяны засталіся надоўга: «З усіх знойдзеных мной кніг на тэму сексуальнасці Свядашч быў самы кашмарны, таму мне не хацелася быць тым, што ён там апісвае». У іншых кнігах па сексалогіі застойных гадоў, якія ў свой час прачытала Таццяна, аднаполае каханне наогул не згадвалася.

У той час у Таццяны развілася дэпрэсія, звязаная ў тым ліку і з праблемай прыняцця ўласнай сексуальнасці. Гераіне нашага артыкула пашанцавала. Адна з яе выкладчыц у той час практыкавала як псіхатэрапеўт і прапанавала сустракацца і гутарыць.

Падчас другой ці трэцяй гутаркі Таццяна распавяла пра сваё няшчаснае каханне: «Яна проста села поруч са мной, выслухала ўсё ўважліва і не асудзіла. І менавіта гэта мне было неабходна. Мяне не асудзілі гэты чалавек. Сяброўкі мне сказалі: «Ты што! Гэта ж жах!» З некаторым адценнем грэблівасці. І было зразумела, што больш я не пайду ім нешта распавядаць. А гэты чалавек спакойна мяне выслухаў і сказаў: «Усё нармальна, нічога страшнага ў гэтым няма. Гэта не хвароба. Прымай сябе такой, якая ёсць». І я ёй магу сказаць «вялікі дзякуй». Бо гэта дастаткова цяжка, калі ты зусім адзін. А ўсе вакол такія правільныя, усе з правільнымі хлопчыкамі спяць, і ўсё цудоўна, а ў цябе анічога не атрымліваецца. А вось з дзяўчынай атрымліваецца, але гэта асуджаецца. Яна мне дапамагла адчуць, што нягледзячы ні на што, я — такі самы чалавек, як і ўсе. Гэта было важна. Бо больш мяне не падтрымаў бы ніхто: ні сяброўкі, ні тым больш бацькі. Не зразумелі б і не прынялі. Найгорш — гэта калі цябе не прымаюць. Я ж ляварукая, і ў дзіцячым садку я была адна ляварукая. Зараз я пішу правай, але левай я ўсё адно раблю шмат. І мяне перавучвалі. Гэта быў кашмар. Калі геяў спрабуюць лячыць пігулкамі ці інсулін-тэрапіяй, то гэта тое самае, што перавучваць ляварукіх. Нашто? Яны такія нарадзіліся, няхай сабе будуць. Мяне перавучвалі пры ўсёй групе дзіцячага садка. Мне пагражалі прывязаць руку. У мяне адбіралі лыжку: «Не, вазьмі ў правую!» Але мне зручней так! Не, трэба рабіць вось гэтак».

Трэба заўважыць, што сярод псіхатэрапеўтаў гамафобія распаўсюджана прыкладна гэтаксама, як і ў цэлым у грамадстве. У Беларусі псіхатэрапія для ЛГБТ-людзей і сёння знаходзіцца ў стадыі станаўлення. Шчаслівае развіццё гісторыі атрымала менавіта дзякуючы канкрэтнаму чалавеку — выкладчыцы.

***

Я ўзяўся даследаваць гісторыю ненарматыўнай сексуальнасці, негетэрасексуальнасці ў Беларусі другой паловы XX стагоддзя. У першую чаргу, маецца на ўвазе гісторыя людзей, якіх аб'ядноўвае абрэвіятура ЛГБТ (лесбійкі, геі, бісексуалы і трансгендэры).

Цікавіць мяне не тое, што людзі рабілі ў ложках, а тое, як гэта ўспрымалася грамадствам, наколькі высокім быў узровень фобій і дыскрымінацыі. Таксама мяне цікавіць, ці існавалі самастойныя субкультуры, звязаныя з той ці іншай сексуальнасцю, ці аб'ядноўваліся людзі ў гурткі, каб стварыць для сябе бяспечную прастору, ці спрабавалі адстойваць свае правы. На большасць з гэтых пытанняў у мяне пакуль няма адказаў.

Я буду ўдзячны за падказкі па тэме, якія можна накіроўваць на адрас identityby@gmail.com. Таксама буду ўдзячны тым сведкам мінулай эпохі, якія адгукнуцца і распавядуць пра свой досвед негетэранарматыўнага жыцця ў часы СССР.

# Трэба вучыцца смяяцца з сябе

**Шмат гадоў культуролаг Вацлаў Арэшка асэнсоўвае шляхі захавання беларускай нацыі. Чытачам НЧ ён распавядае пра свае вытокі, грамадзянскае сталенне і высновы, якія ён зрабіў за дзесяцігоддзі працы на ніве беларушчыны.**



### Мае карані такія розныя

З каранямі ў мяне складанасці ў тым сэнсе, што лініі бацькоў ідуць з абсалютна розных этнічных і нават геаграфічных бакоў. Бацька мой — з-пад Ляхавічаў, што на Берасцейшчыне, ягоны старадаўні беларускі шляхецкі род Ажэшкаў больш-менш прасочваецца з XV стагоддзя. А маці — з Расіі. Дзед па маці — селянін родам з-пад Пензы. Згодна сямейнай легендзе, продак гэтага чарнявага земляроба падчас антыпрыгонніцкага паўстання збег на Каўказ, адкуль прывёз сабе жонку. Бабуля па маці — гараджанка, родам з Ніжняга Тагілу. Зноў жа, па сямейных пераказах, яе продкаў на пачатку XIX стагоддзя прывезлі з-пад Масквы.

Нарадзіўся я ў 1955 годзе ў Свярдлоўску. Нягледзячы на тое, што выхоўваўся ў расійскім атачэнні, мне пашанцавала, паколькі бацька быў заўзятым беларусам і штогод прывозіў мяне на радзіму продкаў — на Ляхавіччыну. Так што з двухгадовага ўзросту кожнае лета разам з бацькам па некалькі месяцаў праводзіў у беларускай вёсцы, дзе размаўлялі выключна па-беларуску. Так адбывалася да таго часу, пакуль мы не пераехалі жыць у Беларусь.

З дзяцінства запала некалькі рэчаў. Калі на Ляхавіччыне кантактаваў з мясцовымі дзецьмі, адзін з хлопцаў мне сказаў: «А што ты так дзіўна размаўляеш, як кацап?» І мяне гэта вельмі пакрыўдзіла. З іншага боку, калі прыязджаў з Беларусі на Урал, настаўніца ў школе скардзілася маці, што ў мяне «очень засоренный язык».

Побач з хутарам майго дзеда па бацьку месціўся маёнтак роду Чарнецкіх, адзін з прадстаўнікоў якога быў вядомым беларускім дзеячам. У 1920-я гады дзед сябраваў з «панам» Чарнецкім, яны хадзілі адзін да аднаго ў госці. Бабка была праваслаўная, а дзед і ягоны род — каталікі, што цягам першай паловы XIX стагоддзя зафіксавана ў кнігах Ляхавіцкага касцёла. Аднак ужо іх дзеці забыліся пра свае каталіцкія карані.

Адчуванне беларускасці, якое вельмі моцна сядзела ў бацькі і ягоных братоў, не адразу прыйшло да мяне. Адбылося гэта тады, калі я стаў цікавіцца гісторыяй сваіх продкаў. Памятаю, як часам выйдзе з хутара дзед і паказвае мне — дзіцёнку: «Бачыш, вось той лес. Гэта быў мой лес». Увогуле, усвядомленасць сваёй этнічнай прыналежнасці ў нас, у Заходняй Беларусі, заўсёды была моцная. Гэта ўражвала тых, хто прыязджаў з усходу. Але страх быў яшчэ мацнейшы. Таму памяць і свядомасць прыхоўваліся, пакуль раптам не адчулася, што баяцца няма чаго. Але, на жаль, страх не прайшоў цалкам, а звычка прыстасоўвацца засталася дагэтуль.

> **Працаваць толькі на сябе можа і крот. А кожны з нас становіцца чалавекам, калі працуе не толькі на свой дом, сваю сям'ю, а робіць нешта большае**

Бацька шмат працаваў, і я яго зрэдку бачыў. Вялікі ўплыў мелі на мяне неаднаразовыя кантакты з дзедам — сапраўдным беларусам. Ён быў даволі цікавай і моцнай асобай, старой, яшчэ шляхецкай загартоўкі, шмат чаго ведаў і бачыў, у тым ліку знакаміты выступ Уладзіміра Леніна з браневіку на Фінляндскім вакзале ў Петраградзе ў красавіку 1917-га. Дзед не казаў, як зараз, — «да вайны» ці «пасля вайны», а «да бальшавікоў» ці «пры бальшавіках», па радыё слухаў толькі «Голас Амерыкі» ці «Радыё Свабода» ды іншыя заходнія «галасы» праз вялікую, метраў на дванаццаць, антэну, прыхаваную на дрэвах. Менавіта ад дзеда я прывучыўся з малых гадоў слухаць гэтыя радыёстанцыі. Жыў дзед на хутары з невялікім пляцам зямлі ў дзевяць з паловай гектараў, на які выйшаў у 1930-я гады. Менавіта на гэтым хутары і прайшлі лепшыя часы майго дзяцінства.

Дзед быў даволі суровы. У яго стаяў старэнькі, з па-за польскага часу, самагонны апарат, і дзед часам за хлявом гнаў самагон, які, як я пазней зразумеў, быў выдатнай якасці. І мы са стрыечнымі братамі бегалі да дзеда, каб накапаў нам некалькі кропель гэтага напою. Несавецкасць дзеда і гэтая ягоная цвёрдасць вельмі на мяне паўплывалі. Яны сведчылі пра ягоную самастойнасць, аднаасобнасць, некалгаснасць. Як і многія іншыя прадстаўнікі дробнай беларускай шляхты, дзед быў майстрам па дрэву, рабіў колы і бочкі. Дарэчы, падчас нямецкай акупацыі на хутары дзеда хаваліся габрэі, якія ўцяклі з лагеру, за што немцы спалілі дзедаву хату.

### Антысавецтчыкам я стаў з маленства

У гады майго маленства слова «ГУЛАГ» яшчэ не гучала, але ўсім знаёма было слова «зона». Спачатку мы жылі ў цэнтры Свярдлоўску, а потым пераехалі на ўскраіну горада, дзе атрымалі кватэру ў новым раёне. І там праз лясок можна было выйсці на вялізарныя прасторы, абцягнутыя калючым дротам. Што там было, цяжка сказаць. Ці гэты былі вайсковыя часткі, ці лагер ГУГАГу? Аднак тыя дзеці, якія асмельваліся туды хадзіць, добра атрымлівалі кухталёў. З расповедаў бацькі, які на пачатку 1950-х гадоў прыехаў працаваць на Урал, спачатку іх геалагічная экспедыцыя месцілася ў будынку адміністрацыі былога лагеру. І жыць у гэтым будынку, як сведчыў бацька, было даволі жудасна. Шмат цікавага распавядала і маці, паколькі яе бацька пэўны час працаваў у НКУС, а пасля вайны — пракурорам. Вось чаму адчуванне нейкіх забароненых ведаў увесь час лунала ў нашым доме. І хоць маці шмат чаго не распавядала, да мяне — дзіцёнка — невядомым чынам усе ж даходзілі чуткі пра нейкія арышты, пра тое, што недзе кагосьці забралі.

Мяне пазней, калі я ўжо быў у больш свядомым узросце, уражвала тое, што часы вялікіх рэпрэсій скончыліся ўсяго за некалькі гадоў да майго нараджэння, а адчуванне страху было яшчэ цалкам жывое.

Паколькі бацька добра ведаў, што ягоны брат жыве ў Бельгіі, то прыняў прапанову савецкіх спецслужбаў (адмовіцца было небяспечна) паехаць на сусветную выставу 1958 года ў Брусэлі, каб угаварыць брата — добрага фармацэўта — вярнуцца на Радзіму. Але бацька зрабіў адваротнае — стаў пераконваць брата, каб ён у аніякім разе не вяртаўся на Бацькаўшчыну. На што дзядзька падзячыў і сказаў, што яго пераконваць не трэба. З таго часу яны ліставаліся, хоць дзядзька зрэдку пісаў сваякам. Так што на мяне вельмі паўплывала і гэтае веданне яшчэ адной сямейнай таямніцы, а таксама рэчы, што траплялі ў наш дом праз пасылкі ад дзядзькі. Гаворка ідзе, у тым ліку, і пра цацкі, машынкі, хусткі, асадкі, паштоўкі, маркі, шакаладныя цукеркі, жуйкі.

Вельмі моцна паўплывала на мяне знакамітая амерыканская нацыянальная выстава ў Маскве ў 1959 годзе падчас хрушчоўскай адлігі. Амерыканцы вельмі разумна зрабілі гэтую выставу ў Сакольніках, дэманструючы якраз тое, што і трэба было паказаць савецкім людзям. Мы тады з маці як знаходзіліся ў Маскве ў сваякоў і некалькі дзён стаялі ў чарзе па білеты на выставу.

Мяне — чатырохгадовага дзіцёнка — на гэтай выставе моцна здзівіла ўсё, пачынаючы ад вялікіх чэргаў за білетамі, кока-колы, прыгожых аўтамашынаў і каляровай тэлевізіі. Аднак больш за ўсё мяне ўразілі тры рэчы: рок-н-рол, абстрактнае мастацтва і макет тыповага амерыканскага прыватнага жылога дому — аднапавярховага шматпакаёвага катэджу. Зроблены ў памер сапраўднага дому, у якога адсутнічала адна вонкавая сцяна, макет дэманстраваў жыллё ў разрэзе. Людзі стаялі з адкрытым ротам каля гэтага макету, што адлюстроўваў побыт шараговай амерыканскай сям'і. Прычым найбольш дзівілі не шыкоўныя халадзільнікі, пасудамыечныя і пральныя машыны, але прыбіральня з унітазам і кранамі ў гэтым па-нашаму вясковым доме.

Я сталеў паміж тым, што бачыў насамрэч, у тым ліку і на амерыканскай выставе ў Маскве, а таксама тым, што чуў з замежнага і савецкага радыё, дык рана — у 13 гадоў, — стаў свядомым антысаветчыкам. Адбылося гэта ў 1968 годзе, калі на мяне моцна паўплывалі студэнцкія выступы ў Францыі і падзеі ў Чэхаславаччыне. Пасля гэтых падзей аніякая савецкая ідэалогія не магла ўздзейнічаць на мяне, бо дзякуючы заходнім радыёстанцыям я не «трапіў пад іхную прапаганду», а пачаў больш і больш думаць сам.

Улады заўсёды сумняваліся ў маёй добранадзейнасці. Памятаю, як напрыканцы 1970-х гадоў у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача, дзе я працаваў, першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў уручаў узнагароду часопісу «Бярозка», і мне менавіта з палітычных прычынаў не дазволілі ўдзельнічаць у гэтай імпрэзе.

### Нам не хапае працы над памылкамі

Што для мяне Беларусь і беларускае нацыянальнае адраджэнне? Гэта праца кожнага з нас і наш супольны чын. І для мяне вельмі важна, што большую частку свайго жыцця я імкнуўся не крывіць душой і не прыстасоўвацца, рабіць тое, што лічу патрэбным. Калі б усе так рабілі, можа, нашае нацыянальнае адраджэнне было б у нейкай іншай сітуацыі. Мне здаецца, што клопаты пра тое, каб была беларуская нацыя, каб была нацыянальная культура — на сённяшні дзень гэта вельмі неабходная цяжкая мужчынская праца. Бо працаваць толькі на сябе можа і крот. А кожны з нас становіцца чалавекам, асабліва мужчынам, калі працуе не толькі на свой дом, сваю сям'ю і сваіх дзяцей, а робіць нешта большае.

Я доўгі час працаваў у ТЮГу, з «чырвоным» дыпломам скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «тэатразнаўства», аспірантуру, працаваў у Нацыянальным мастацкім музеі, выкладаў у акадэміі мастацтваў, распрацаваў праграму новага навучальнага курсу «Гісторыя і тэорыя культуры Беларусі», перакладаў са старапольскай мовы творы беларускага барока, пачаў здзяйсняць уласную навуковую праграму пабудовы новай беларускай культуры праз адаптацыю да сучаснасці спадчыны старой беларускай культуры, у тым ліку і польскамоўнай, вёў аддзел кніжных і кампутарных рэцэнзій у «Нашай Ніве».

Калі ж прыйшоў час выбіраць паміж навуковай кар'ерай і грамадскай дзейнасцю, атрымалася так, што абраў апошняе. Спадзяюся, што зрабіў правільны выбар (часам задумваюся пра гэта і мяркую, што, напэўна, проста не вытрымаў бы, як некаторыя мае калегі, палову жыцця сядзець на двух крэслах, быць добрым для ўсіх). Менавіта дзякуючы гэтаму свядомаму выбару я і сёння адчуваю сябе не пенсіянерам, а досыць маладым чалавекам.

На маю думку, Беларусь будзе мець шанец на еўрапейскую будучыню, калі мы навучымся смяяцца з сябе. Трэба проста з усмешкай узважана і самакрытычна паглядзець, што было зроблена правільна, а што памылкова, каб на гэтым вучыцца і пазбаўляцца смецця. Калі ж з гэтага не рабіць, дык памылкі будуць накопвацца, не дазволяць здзейсніць нашу мару і зменяць вобраз нашай найноўшай гісторыі, калі мёртвы хапае жывога. На жаль, усведамленне памылак пакуль не стала неабходнай праграмай для беларускага дэмакратычнага грамадства.

**Запісаў Марат Гаравы**

***P.S.** 18 студзеня Вацлаў Арэшка адзначыць свой 61-ы дзень нараджэння, з чым мы яго шчыра віншуем!*

# Кур'ёзы палітычнай астралогіі

Алег НОВІКАЎ

**Час навагодніх святаў — таксама час для прагнозаў, здараецца, вельмі экстравагантных. Прапануем падборку неверагодных палітычных сцэнараў на год Вогненнай (або Залатой) Малпы.**

Французскі часопіс «Nouvelle Observateur» дае трыбуну аматарам версіі пра тое, што 2016 стане пачаткам аб'яднання Францыі і Германіі. На думку прыхільнікаў такой канцэпцыі, зліццё згаданых краінаў — адзіны варыянт для выратавання еўра і Еўрапейскага саюза, чыя будучыня пад пытаннем праз міграцыйны крызіс, рост нацыяналізму і запланаваны ў Вялікабрытаніі плебісцыт аб выхадзе краны з ЕС. У выпадку аб'яднання Францыі і ФРГ эканоміка дзвюх краін атрымае моцны імпульс, што адродзіць у вачах еўрапейцаў пазітыўны імідж праекту еўраінтэграцыі.

Распрацоўка формулы франка-нямецкай дзяржавы зайшла так далёка, што ўжо называюцца гарады, якія могуць стаць сталіцамі новага аб'яднання. Гэта Бон — былая сталіца ФРГ, які знаходзіцца акурат пасярэдзіне на шляху з Парыжу ў Берлін, або Ахен — сталіца старадаўняй дзяржавы Карла Вялікага, якая ўключала цяперашнія французскую і нямецкую тэрыторыі.

Да выбараў прэзідэнта Францыі яшчэ паўтара года, аднак ужо зараз шмат спекуляцый наконт таго, як будзе выглядаць краіна ў выпадку перамогі Марын Ле Пэн («Нацыянальны фронт»). Найбольш радыкальны прагноз прапанаваў Мануэль Вальс — французскі прэм'ер. Ён лічыць, што ў апараце «Нацыянальнага фронту» распрацоўваецца сцэнар ліквідацыі ў краіне рэспубліканскага ладу, рэстаўрацыі манархіі і вяртання каталіцкай царкве статусу дзяржаўнага органа. Праўда, асобу, якая дакладна можа заняць каралеўскі трон у 2017 годзе, Вальс не ўдакладняе. Варта дадаць, што ўсё кіраўніцтва «Нацыянальнага фронту» дэ-факта кантралююць чальцы сямейства Ле Пэн, што дазваляе прэсе называць згаданую структуру «дынастыяй».

У расійскай прэсе можна наткнуцца на прагнозы, паводле якіх у 2016 годзе мы станем сведкамі прыходу да ўлады камуністаў Зюганава. Падставай для такіх заяваў стала зафіксаванае на апошніх мясцовых і рэгіянальных выбарах плаўнае зніжэнне рэйтынгаў пуцінскай партыі «Адзіная Расія» і павелічэнне ўплыву Кампартыі і партыі «Справядлівая Расія».

**2016 год стане пачаткам аб'яднання Францыі і Германіі. Такі прагноз з'явіўся на старонках французскага часопіса «Nouvelle Observateur»**

Апытанні сацыёлагаў паказваюць, што расіянам надакучыла тэма ўкраінскага крызісу, а спробы пераключыць фокус грамадскай увагі на сірыйскі крызіс выклікае не прыліў аптымізму, а хутчэй фобіі і нядобрыя гістарычныя ўспаміны. Калі ж сітуацыя з канфліктамі на Украіне, у Сірыі, Прыднястроўі ці якіх-небудзь іншых месцах абвострыцца, то карусель палітычных падзей можа істотна паскорыцца. У такім выпадку прызначаныя на восень выбары ў Дзярждуму стануць трыумфам камуністаў, якія з часам могуць не абмежавацца толькі фармаваннем свайго ўраду.

Што тычыцца нашай паўднёвай суседкі, то большасць экспертаў прагназуюць ва Украіне сацыяльны выбух увесну, які таксама будзе мець палітычныя наступствы. Найбольш радыкальны варыянт развіцця падзей — у кіеўскага палітолага Міхаіла Пагрэбінскага, які бачыць будучыню Украіны ў выглядзе новай Самалі з элементамі Трэцяга Рэйху. Аптымісты спадзяюцца, што ўсё закончыцца адстаўкай ураду, максімум сыходам у адстаўку Пятра Парашэнкі, з улікам чаго называюцца новыя, у тым ліку самыя неверагодныя, кандыдатуры на пасаду будучага прэзідэнта Украіны.

Так, паводле львоўскага выдання «Эспресс», найбольш перспектыўным кандыдатам на вакансію прэзідэнта з'яўляецца лідар папулярнай рок-групы «Океан Ельзи» Вячаслаў Вакарчук. Пра палітычныя амбіцыі музыканта, як піша «Экспресс», сведчыць тое, чым ён займаецца апошні час. Прыкладна чатыры апошніх месяцы Вакарчук наведвае ў Ельскім універсітэце ў ЗША лідарскія курсы, якія па сутнасці ёсць падрыхтоўкай для публічнай палітыкі. Таксама трэба адзначыць рост палітычнай актыўнасці адэскага губернатара Міхаіла Саакашвілі, які ў тым ліку пачаў крытыкаваць урад.




Фота www.oko-planet.su

Амерыканскае агенцтва «Fox News» не мае сумневаў, што ў новым годзе мы пабачым незвычайную трансфармацыю публічнага вобразу Мішэль Абамы. Пакуль імя Мішэль хутчэй звязваюць з рознымі дабрачыннымі праектамі, накшталт кампаній супраць расавай дыскрымінацыі, дапамогі ветэранам або супраць атлусцення. Мішэль нават запісала песню ў стылі рэп з вядомым чарнаскурым музыкантам, у якой заклікае вучняў атрымліваць вышэйшую адукацыю. Падобныя акцыі, а таксама абавязкі маці, якім яна надае вялікую ўвагу, вельмі падабаюцца амерыканцам, пра што сведчыць высокая папулярнасць Першай лэдзі (60–70 працэнтаў). «Fox News» сцвярджае, што высокі рэйтынг Мішэль Абамы — вельмі добры падмурак для пачатку палітычнай кар'еры. Тым больш прыклад перад вачыма — Хілары Клінтан, якая лічыцца фаварытам прэзідэнцкіх выбараў гэтага года.

Між тым, кансерватыўная прэса ЗША б'е ў набат. На яе думку, менавіта ў наступным годзе напружаныя міжрасавыя адносіны ў ЗША могуць выліцца ў адкрыты канфлікт паміж афраамерыканцамі і белымі амерыканцамі. Гэтыя беспарадкі выйдуць за межы простых вулічных разборак. У выніку на мапе краіны паступова сфармуюцца зоны, якія будуць мець асобныя адміністрацыі. Па сутнасці, гэта значыць рымейк грамадзянскай вайны ў ЗША сярэдзіны XIX стагоддзя. Хаця ўвогуле для амерыканскай кансерватыўнай прэсы апакаліптычныя настроі, асаблівы ў год выбараў, вельмі характэрныя.

Спіс незвычайных палітычных прагнозаў далёка не поўны і, хутчэй за ўсё, на працягу года іх стане больш. Глабальная нестабільнасць, пад знакам якой відавочна пройдзе 2016-ы, ствараe добрую глебу для падобнага прадукту.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Падобна на тое, што прэзідэнт Беларусі мае намер захаваць за сабой міратворчы імідж, які адкрывае для яго перспектывы матэрыяльнай падтрымкі з Захаду і Усходу. Сапраўдная ж мэта метамарфозы Лукашэнкі — жаданне нічога не мяняць у палітыцы ўнутранай. Нягледзячы на крах эканамічнай палітыкі Мінска, якая паставіла ўсю краіну на мяжу выжывання, рэформы з'яўляюцца сур'ёзнай пагрозай для беларускага рэжыму. Зрэшты, у адказ на любыя выклікі, што пагражаюць асабістай уладзе, яму нічога не варта зрабіць усяго адзін крок у адваротны бок — ад міратворца да дыктатара.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

У расійскіх і некаторых іншых СМІ ўсё часцей сталі папракаць беларускага саюзніка ў палітыцы «сядзення на двух крэслах». Яе яшчэ прынята называць прагматычнай і шматвектарнай. Дык вось, у гэтых СМІ прадракаюць, што такая палітыка можа даць збой ва ўмовах сур'ёзнага крызісу, які перажываюць Турцыя і еўразійскія партнёры Расіі. Як бы хто ні марыў, але Пуцін будзе патрабаваць дакладна вызначыцца, хто на чыім баку. Назіральнікі лічаць, што Крэмль усё больш схіляецца да рэзкага развароту ў адносінах не толькі з Турцыяй.

**DELVI (Літва)**

Рэформы па ўзоры Польшчы, якія беларускія апазіцыянеры лічаць вартымі пераймання, прывядуць брацкую рэспубліку да катастрофы: так, у 2008 годзе збанкрутаваў польскі аналаг МАЗа — вытворца грузавікоў і аўтобусаў «Jelcz», следам «вылецела ў трубу» іншая аўтобусная фабрыка — «Autosan», а ў 2011-м прыйшла чарга і польскага завода FSO. Значна больш прывабным выглядае выпадак Чэхіі. Зразумела, і там не абышлося без стратаў — у 2003 годзе быў ліквідаваны добра вядомы ў СССР сваімі грузавікамі LIAZ, затое яго аналаг TATRA ацалеў. А «Skoda» нагогул стала сімвалам поспеху чэшскіх рэформаў. Зараз гэта падраздзяленне «Volkswagen» не толькі павялічыла вытворчасць і пашырыла мадэльны шэраг, але і адчыніла свае філіялы ў многіх краінах свету. Таму вельмі перспектыўна было б увасобіць у Беларусі менавіта «чэшскую мадэль».

**«Взгляд» (Расія)**

У Расіі за апошнія гады з'вілася шмат прэтэнзій да Беларусі. Эксперты лічаць, што ў апошнія гады Беларусь дэманструе «незалежнасць знешнепалітычнага курсу ад расійскага, які становіцца ўсё больш агрэсіўным», і Лукашэнку давялося за гэта адказаць. А ўлічваючы тое, што беларускія ўлады наладжваюць кантакты з Азербайджанам, які з'яўляецца бліжэйшым саюзнікам Турцыі, то чакаць у будучым годзе паляпшэнняў адносін не варта.

**«Times» (Арменія)**

У эканоміцы ў 2015 годзе працягнулася падзенне. Крэдыты МВФ і антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС Мінск пакуль не атрымаў. Даходы насельніцтва працягваюць зніжацца: у канцы 2014 года сярэдняя зарплата складала 575 долараў, праз год — ужо каля 380 долараў. Але рэформы, пра якія кажуць, застаюцца для ўрада перспектывай на самы крайні выпадак.

**RFI (Францыя)**

Працягнецца флірт Беларусі з Захадам. Лукашэнка хоча дамагчыся канчатковага зняцця санкцый, і таму будзе скакаць пад заходнюю дудку. У сувязі з гэтым магчымая некаторая лібералізацыя ўнутранай палітыкі, што мае на ўвазе больш лаяльнае стаўленне да празаходняй апазіцыі. Не выключана, што тая ж Тацццяна Караткевіч, якая выконвала ролю апазіцыйнага кандыдата на апошніх прэзідэнцкіх выбарах, стане сістэмнай празаходняй «апазіцыянеркай», якую будуць прад'яўляць Захаду як доказ таго, што ў Беларусі ёсць дэмакратыя. Тым больш, што ў 2016 годзе ў рэспубліцы пройдуць парламенцкія выбары, і, магчыма, Караткевіч зможа стаць дэпутатам беларускага парламента, які нічога не вырашае.

**«Eurasia Daily» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАДЖЫКІСТАН. 80 старонак вершаў для лідара нацыі

Як вядома, у снежні прэзідэнт Таджыкістана Эмамалі Рахмон атрымаў ад парламента тытул «лідар нацыі» ў выглядзе адпаведнага закона. Не прайшло і месяца, як у таджыкскіх кнігарнях з'явілася кніжка, прысвечаная «заснавальніку дзяржавы і нацыянальнага адзінства» (так называюць у згаданым законе Эмамалі Рахмона). Гаворка пра 80-старонкавы зборнік вершаў, які распавядае пра станоўчыя якасці і ўчынкі свежаабвешчанага лідара нацыі. Напісалі тыя вершы некалькі дастаткова вядомых у краіне паэтаў. Пакуль літаратурныя крытыкі не паспелі даць ацэнку творам, якія ўхваляюць Рахмона. Што тычыцца афіцыёзу, то там пішуць пра старадаўнюю таджыкскую традыцыю пісаць оды выбітным дзяржаўным кіраўнікам. Застаецца дадаць, што пакуль, калі верыць мясцовай прэсе, вялікага ажыятажу кніга ў колах бібліяфілаў не выклікала.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### УКРАІНА. Сцяпан Бандэра стане Асірысам?

Гучныя святкаванні ва Украіне гадавіны нараджэння Сцяпана Бандэры выклікалі ў грамадстве цікавыя дэбаты. Некаторыя ўсур'ёз абмяркоўваюць магчымасць з'яўлення рэлігійнага культу Бандэры. Так, вядомы кіеўскі палітолаг Косць Бандарэнка піша: «Значная частка ўкраінцаў прызнае сёння неапаганства ў вельмі спецыфічнай форме. Яны вераць у добрага бога — Бандэру, які «прыйдзе і парадак навядзе». Пры гэтым самім вернікам нічога не трэба будзе рабіць — усё зробіць Бандэра». Падобная формула: Бандэра павінен абавязкова ўваскрэснуць, і момант яго ўваскрэсення азначыць сабой завяршэнне даўніх бедаў, па словах некаторых спецыялістаў, нагадвае культ бога Асірыса ў старажытным Егіпце. Цікава, што візаві Бандарэнкі і яго прыхільнікаў крытыкуюць агучаныя вышэй тэзісы не за іх фантастычнасць, а за тое, што цяперашнія паслядоўнікі Бандэры — вельмі прагматычныя і рацыянальныя асобы, не здольныя верыць у нейкі цуд.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Адкуль пайшоў бунт у Арэгоне?

Белы дом ламае галаву, ці рэагаваць на захоп будынка адміністрацыі нацыянальнага запаведніка каля возера Малур. Нагадаем, тры мясцовых брата-фермера разам са 150 апалчэнцамі захапілі будынак, каб дамагчыся вяртання зямель запаведніка ў агульнае карыстанне. Між тым, гісторыкі лічаць, што выхадка апалчэнцаў — не выпадковасць, а з'яўляецца рэхам мясцовай палітычнай традыцыі. Аказваецца, у першай рэдакцыі канстытуцыі штату Арэгон у 1859 годзе абвяшчалася, што жыць тут могуць выключна белыя. Арэгон быў адзіным штатам у федэрацыі з падобным параграфам, які захоўваўся аж да 1926-га. Прычым самае вясёлае, што пражыванне афраамерыканцаў у Арэгоне забаранілі, каб тут не паўсталі інстытуты рабства. Па сутнасці, наступствы тых забабонаў мы назіраем сёння. У сярэднім у кожным амерыканскім штаце пражывае 13 працэнтаў афраамерыканцаў, а ў Арэгоне — толькі 2 працэнты. Хутчэй за ўсё, пасля ліквідацыі паўстання ў штаце будзе арганізаваная шырокая кампанія супраць перажыткаў расізму. Праўда, спачатку бунт трэба ліквідаваць. Зараз апалчэнцы адмаўляюцца падпарадкавацца Вашынгтону і праз інтэрнэт заклікаюць амерыканцаў падтрымаць іх паўстанне.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ІЗРАІЛЬ. Забаранілі кнігу для дзяцей



Міністэрства адукацыі Ізраілю забараніла школьным бібліятэкам утрымліваць у сваіх каталогах кніжку «Мяжа» пісьменніцы Дорыт Рабін. На думку міністэрства, змест кнігі вельмі небяспечны, паколькі можа разбурыць у маладых ізраільцян іх нацыянальную ідэнтычнасць. Разбурэнне нацыянальнай ідэнтычнасці звязанае з сюжэтам кнігі, якая апісвае раман яўрэйскай жанчыны і палесцінскага араба. Яны сустракаюцца ў ЗША, аднак у выніку вымушаны вярнуцца кожны ў сваю частку Ізраіля. Паміж імі ляжыць мяжа, якая таксама падзяляе і краіну на арабскі і яўрэйскі сектары. Дзіўна, што рашэнне пра забарону кнігі было прынятае амаль праз два гады пасля яе выхаду. За гэты час кніга паспела нават атрымаць нацыянальную літаратурную прэмію «Лепшая дзіцячая кніга года». Цяпер прагрэсіўныя акадэмікі патрабуюць ад ураду перагледзець рашэнне пра забарону, называючы яго цемрашальствам. У сваю чаргу, чыноўнікі кажуць, што сыходзілі з вынікаў экспертызы групы літаратуразнаўцаў, якія прызналі кнігу Дорыт небяспечнай для дзіцячых мазгоў.

**Паводле ізраільскай прэсы**



Фота www.rus.err.ee

# Дэкамунізаваць нельга пакінуць

**Ва Украіне нарастае інтрыга вакол лёсу Кампартыі (КПУ). Згаданую структуру забаранілі ў рамках закона аб дэкамунізацыі, які, у сваю чаргу, Еўропа патрабуе перагледзець. Пра будучыню ўкраінскіх левых журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае кіеўскі журналіст Андрэй Манчук.**

***— Яшчэ 18 снежня Венецыянская камісія і Бюро дэмакратычных інстытутаў і правоў чалавека АБСЕ прынялі рашэнне аб неадпаведнасці ўкраінскага закона аб дэкамунізацыі стандартам Савета Еўропы. У дакуменце ўказана, што ў цяперашняй фармулёўцы закон можа прывесці да парушэння права на свабоду выказвання. Наколькі такая ацэнка пацвярджаецца практыкай (пакет законаў аб дэкамунізацыі дзейнічае з мая 2015)?***

— У палітычным сэнсе, задачай «закона аб дэкамунізацыі» з'яўляецца поўная зачыстка палітычнага поля Украіны ад левых партый і рухаў. Гэтая задача адкрыта дэкларуецца яго аўтарамі. Акрамя таго, гэта вельмі выгадна карумпаваным украінскім чыноўнікам і алігархам, якія жадаюць адцягнуць сацыяльную незадаволенасць украінцаў у бок «ўнутранага ворага», якім афіцыйна прызначаныя камуністы. Адначасова з гэтым закон ставіць па-за крытыкай факты супрацоўніцтва ўкраінскіх нацыяналістычных лідараў з гітлераўцамі, удзел нацыяналістаў у забойствах яўрэяў і арганізацыі этнічных чыстак палякаў на Валыні ў 1943 годзе. Натуральна, усё гэта з самага пачатку выклікала насцярожанае стаўленне ў еўрапейскіх праваабаронцаў.

***— Заявы Венецыянскай камісіі неяк паўплывалі на лёс Пятра Сіманенкі і яго Кампартыі?***

— Я думаю, што, нягледзячы на заявы еўрапейцаў, у закон не ўнясуць ніякіх істотных зменаў. Максімум, будуць зробленыя нейкія фармальныя, касметычныя карэкціроўкі. Парламент, дзе цяпер дамінуюць правыя і папулісты, не пойдзе на перагляд скандальнага закона. Пра гэта сведчыць папярэдні рэзананс ва Украіне на заяву міжнароднай праваабарончай арганізацыі «Amnesty International», якая таксама асудзіла забарону кампартыі. Аднак міністр юстыцыі Павел Пятрэнка досыць катэгарычна заявіў аб тым, што Украіна мае права забараняць палітычныя партыі.

***— Сіманенка збіраецца дамагацца адмены забароны яго арганізацыі праз Еўрасуды. Разам з тым папулярная думка, што рэабілітацыя вельмі карумпаванай КПУ не пойдзе на карысць левым рухам ва Украіне. Можа, лідарам кампартыі будзе карысна прайсці катарсіс у падполлі?***

— Безумоўна, апошнія дзесяць гадоў Камуністычная партыя Украіны менш за ўсё адпавядала сваёй назве. Яна ператварылася ў партыю, якая па чарзе прадавала галасы сваіх дэпутатаў Блоку Юліі Цімашэнка і Партыі рэгіёнаў у абмен на прыбытковыя месцы ў дзяржаўным апараце і прэферэнцыі ў бізнесе. З КПУ даўно выйшла большасць ідэйных актывістаў, а сама партыя спавядала ў апошнія гады кансерватыўную ідэалогію, адкрыта супрацоўнічаючы з царквой і Масквой. Гэта стала важнай прычынай падзення папулярнасці партыі. Аднак ні ў якое падполле Сіманенка не пойдзе. Сябры партыі — заможныя асобы, якія будуць намагацца прыстасавацца да кан'юнктуры.

***— Які лёс структур КПУ ў рэгіёнах Украіны, якія Кіеў часова не кантралюе?***

— КПУ афіцыйна адхрысцілася ад сваіх партыйных арганізацый у Крыме і на Данбасе, хоць гэта не вывратавала Сіманенку ад абвінавачванняў у сепаратызме. Крымскія камуністы досыць хутка ўліліся ў склад розных расійскіх кампартый, але не адыгрываюць зараз ніякай істотнай ролі ў палітычным жыцці паўвострава. У Данецку была зроблена спроба стварэння Камуністычнай партыі Данбаса, аднак улады ДНР гэтаму перашкодзілі. У Луганскай вобласці дзейнічае Саюз камуністаў Луганшчыны, але на выбары іх пакуль таксама не дапускаюць. У цэлым, становішча камуністаў у ДНР і ЛНР застаецца двухсэнсоўным — яны не падвяргаюцца праследу з боку ўлады, але, нягледзячы на сваю палітычную актыўнасць, не ўваходзяць у структуры ўлады.

***— Практычна ўсе піянеры ўкраінскага палітычнага нацыяналізму былі сацыялістамі і марксістамі — Грушэўскі, Віннічэнка, Пятлюра... Як гэтую акалічнасць прапануюць разглядаць у цяперашняй дэкамунізаванай гістарыяграфіі Украіны?***

— Стаўленне да гэтых гістарычных фігур вельмі рознае. Пятлюра з'яўляецца значнай фігурай у нацыяналістычным пантэоне, аднак даўно не ўспрымаецца на ўзроўні масавай свядомасці ў якасці лідара сацыял-дэмакратаў. Бацькоў украінскай дзяржаўнасці пачатку XX стагоддзя Віннічэнку, і нават Грушэўскага, нярэдка выяўляюць у якасці «мяккацелых спадарожнікаў бальшавікоў». Героямі постмайданаўскай гістарыяграфіі з'яўляюцца не яны, а радыкальныя нацыяналісты накшталт Канавальца, Данцова, Бандэры, Мельніка і Шухевіча.

***— У любой краіне, а тым больш ва Украіне, дзе жыццёвыя стандарты імкліва дэградуюць, сацыяльнае пытанне — адно з самых значных у грамадска-палітычнай дыскусіі. Так ці інакш, нехта будзе выкарыстоўваць сацыяльную тэму. Якая можа быць мадэль украінскага сацыяльнага пратэсту ва ўмовах «дэкамунізацыі» і якія яго перспектывы?***

— Па-за межамі кампартыі, на аснове некалі ўплывовай Сацыялістычнай партыі Украіны, развіваецца партыя «Сацыялісты». Аднак цяперашнім палітычным элітам Украіны не патрэбныя ўплывовыя левыя сілы. Пры адсутнасці ўплывовых левых партый і прафсаюзаў можна ўмела паралізаваць сацыяльную незадаволенасць. Як правіла, успышкі сацыяльнага пратэсту б'юць «ухаластую»: іх амаль заўсёды ўзначальваюць палітыкі, якія тлумачаць украінцам, што ва ўсім вінаватыя «ворагі нацыі». Таму перспектыва левых прамайданаўскіх партый таксама не зразумелая.

# Юань — ён і ў Афрыцы юань

Алег НОВІКАЎ


Фота www.newstomato.com

**З новага года юань стаў нацыянальнай грашовай адзінкай не толькі ў Кітаі, але і ў Зімбабвэ. Улады гэтай афрыканскай краіны абвясцілі аб пачатку выкарыстання кітайскіх грошай унутры краіны. Пераход на юань афрыканскіх краін: прэцэдэнт або тэндэнцыя?**

У свеце хапае краін, якія выкарыстоўваюць для ўнутраных разлікаў замежныя валюты. Аднак выпадак Зімбабвэ ўнікальны. Упершыню ў гісторыі краіна перайшла на кітайскія грошы. Увогуле, рэформа, якую анансавалі 26 снежня зімбабвійскія ўлады, будзе праходзіць у некалькі этапаў. У рамках першага этапу кітайскім турыстам будзе дазволена разлічвацца ў Зімбабвэ юанямі. Затым у юанях улады краіны пачнуць разлічвацца з Кітаем па пазыках.

Пераход на юань тлумачыцца выключна прагматычнымі прычынамі і макраэканамічнымі разлікамі. Так, па словах мясцовага афіцыёза, выкарыстанне юаняў дапаможа знізіць негатыўны эфект амерыканскіх санкцый у дачыненні да Зімбабвэ. А менавіта: дазволіць рабіць трансакцыі праз кітайскія фінансавыя кампаніі, а не праз амерыканскія, дзе іх час ад часу блакуюць.

«Калі мы пачнём выкарыстоўваць юань, то стымулюем кітайцаў рабіць тут больш», — кажа адзін з мясцовы эканамістаў. Нарэшце, за пераход на юань Кітай пагадзіўся прабачыць краіне доўг у сорак мільёнаў долараў.

Між тым, сярод эканамістаў і паліталогаў хапае і тых, хто бачыць у навінах з Зімбабвэ не проста бзік мясцовай дыктатуры Роберта Мугабэ, а праяву больш глабальнага дрэйфу — паўзучага пранікнення Кітаю ва ўнутраныя справы афрыканскіх дзяржаваў. Кітай даўно і сістэмна працуе на Чорным кантыненце (агульныя інвестыцыі КНР у афрыканскія дзяржавы за апошнія 15 гадоў дасягнулі 40 мільярдаў долараў), а зімбабвійскі накірунак для Пекіну — адзін з самых прыярытэтных. За апошнія гады Кітай стаў другім па велічыні гандлёвым партнёрам для Зімбабвэ, саступаючы тут толькі суседняй ПАР. Пры гэтым кітайцы працуюць не толькі ў сферах развіцця мясцовай інфраструктуры і горнай вытворчасці. Была таксама падпісана двухбаковая дамова пра падтрымку спецыялістамі.

Акрамя таго, пераход на юані ў Зімбабвэ ўспрымаецца ў кантэксце будаўніцтва ў Джыбуці першай у Афрыцы кітайскай вайсковай базы. Гэтая база значна ўзмацніць пазіцыі КНР у рэгіёне, дзе актыўна ідзе перадзел сфер уплыву паміж вялікімі дзяржавамі.

З іншага боку, некаторыя кажуць, што Зімбабвэ — гэта асобны выпадак, і ўсё, што тут адбываецца, трэба разглядаць ізалявана ад агульнаафрыканскіх трэндаў. Пачнём з таго, што гэта адзіная ў Афрыцы краіна, якая знаходзіцца пад санкцыямі з боку Захаду, што аўтаматычна штурхае рэжым у абдымкі Пекіну. Па сутнасці, Кітай і зайшоў у Зімбабвэ пасля чарговага канфлікту з ЗША на глебе санкцый. Пекін адгукнуўся на просьбу Харарэ аб дапамозе і пачаў актыўна выдаваць крэдыты, завазіць тавары народнага спажывання, дапамагаць у будаўніцтве інфраструктурных аб'ектаў у абмен на допуск да здабычы мясцовых карысных выкапняў. Трэба заўважыць, што Кітай пры гэтым стварыў сабе пазітыўны імідж краіны, якая ў адрозненні ад Захаду гатовая дапамагаць Зімбабвэ.

**Кітай даўно і сістэмна працуе на Чорным кантыненце (за 15 гадоў інвестыцыі КНР дасягнулі 40 млрд долараў), а зімбабвійскі накірунак для Пекіну — адзін з самых прыярытэтных**

У дадатак у Зімбабвэ настолькі арыгінальная фінансавая сістэма, што пераход на юані не выглядае такім ужо і вялікім сюрпрызам. Шэсць гадоў таму ўрад Зімбабвэ аб'явіў пра адмову ад уласнай валюты — зімбабвійскага долара, пасля таго як эканамічны крызіс і гіперінфляцыя ў некалькі тысяч адсоткаў прывяла да яго поўнага абясцэньвання. Цяпер у краіне ходзяць паўднёваафрыканскія ранды, еўра і амерыканскія долары.

У завочнай дыскусіі: што стаіць за пераходам Зімбабвэ на юань — думаецца, перамагаюць тыя, хто бачыць у гэтым элементы кітайскай экспансіі. З дапамогай сеткі краін-сяброў па ўсім свеце, Пекін рыхтуецца стаць звышдзяржавай не толькі ў эканамічным, але і ў палітычным сэнсе. Дарэчы, у афрыканскай прэсе пачалася кампанія ў падтрымку рашэння ўраду Зімбабвэ. «Уся Афрыка вітае прыход юаня, бо падыход Кітая адрозніваецца чалавечнасцю. І калі нас палохаюць Пекінам, мне смешна. У нас больш за 400 гадоў вопыту ўзаемаадносін з Еўропай. З іх 300 — гэта гады рабства. 100 гадоў каланіялізму. На Чорным кантыненце чакаюць альтэрнатыву бязліташнасці еўрапейцаў. Пасля падзення СССР гэтая альтэрнатыва знікла, таму прыход Кітая натхняе. Хай юань будзе валютай Зімбабвэ, калі гэта ўратуе няшчасную краіну», — піша адзін з ганскіх эканамістаў.

Аднак пра трыумфальнае шэсце юаня па Афрыцы казаць рана. Існуюць моцныя культуралагічныя бар'еры. За гады каланіялізму і посткаланіялізму жыхары Зімбабвэ прывыклі да зялёных паперак і ахвотна давяраюць ім. Ці будуць яны захоўваць зберажэнні ў паперках з іерогліфамі і выявай Маа — гэта яшчэ пытанне.

Пра гэта, напрыклад, сведчыць рэпартаж радыёстанцыі «Голас Амерыкі». Журналіст прайшоўся па цэнтру Харарэ, спрабуючы разлічыцца юанямі за розныя дробныя паслугі. Эксперымент паказаў, што толькі некаторыя зімбабвійцы гатовыя браць юані. Практычна агульную думку выказаў нейкі гандляр садавінай: «Я надаю перавагу ранду (валюта Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі), паколькі ПАР побач, і долару, паколькі долар — гэта інтэрнацыянальная валюта, якую прымаюць паўсюль».

Другім выклікам для юаня ёсць сталая палітычная нестабільнасць ў Зімбабвэ, што нарастае па ходу таго, як старэе нязменны прэзідэнт Роберт Мугабэ, якому хутка споўніцца 92 гады. Час ад часу з'яўляюцца чуткі пра падрыхтоўку палацавага перавароту. Калі нават удасца пазбегнуць путчу, ніхто не ведае, як будзе дзейнічаць пераемнік Мугабэ.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Генры Рамас Алуп



Адзін з лідараў венесуэльскай апазіцыі стаў спікерам новага венесуэльскага парламенту, які пачаў працаваць 5 студзеня. Гэта вельмі незвычайны парламент, паколькі ўпершыню за амаль 20 гадоў большасць у ім складае апазіцыя. Колькасць дэпутатаў-антычавістаў дазваляе ім моцна ўплываць на выканаўчыя структуры, за якія, паводле канстытуцыі, адказвае прэзідэнт Мадура. Выканаўчая і заканадаўчая галіны яўна настроены на канфрантацыю. У сваім першым выступе ў статусе спікера Алуп паабяцаў на працягу 6 месяцаў канстытуцыйнымі сродкамі дабіцца імпічменту Мадуры. Мадура ў сваю чаргу паспеў да склікання цяперашняга парламента з дапамогай старога дыпкорпусу прыняць пакет законаў, якія дазваляюць прэзідэнту выдаваць законы без згоды народных абраннікаў. Таксама чавісты спадзяюцца на супярэчнасці ўнутры апазіцыйнага блоку. Фракцыя дэмакратаў у Нацыянальнай Асамблеі складаецца з 112 дэпутатаў, аднак толькі 62 чалавекі падтрымалі кандыдатуру Алупа, які шмат каму падаецца занадта памяркоўным.

### Георгій Квірыкашвілі



Новы прэм'ерам Грузіі, які атрымаў гэту пасаду літаральна напярэдадні Новага года, адразу заявіў, што вялікіх зменаў у кадравым складзе міністраў і ў курсе ўраду не будзе. Аднак ціхенька ракіроўку прэм'ераў правесці не атрымалася. Паколькі ў Грузіі 2016-ы — год выбараў, апазіцыя выкарыстала перастаноўкі ў Кабміне для піяр-атакі на ўрадавую партыю "Грузінская мара", за якой стаіць алігарх Бідзіна Іванішвілі. Іванішвілі і яго рэжыму прыгадалі ўсе апошнія правалы — паніжэнне курсу лары, павышэнне коштаў, прэміі чыноўнікам, афармленыя як надбаўкі да заробкаў, цынічныя публічныя развагі дэпутатаў з фракцыі «Грузінскай мары» аб тым, што на дзень грузіну для пражывання дастаткова 1,18 лары (30–40 цэнтаў), непатызм, рост крымінагеннасці, пагаршэнне інфраструктуры... У выніку рэйтынг папулярнасці «Грузінскай мары» яшчэ больш знізіўся, адначасова павышаючы рызыкі для прэм'ерства Квірыкашвілі. Эксперты прагназуюць, што ўлетку, напярэдадні выбараў, у склад ураду будуць уключаны новыя папулярныя ў грамадстве асобы. Трэба адзначыць, што абвал рэйтынгу "Грузінскай мары" абсалютна не адбіўся на рэйтынгах яе праціўнікаў. Галасаваць за «Нацыянальны рух» — вядучую партыю апазіцыі, што звязаная з Міхаілам Саакашвілі, — пакуль збіраюцца толькі 16–18 працэнтаў грузінаў.

### Селахацін Дэміртаalmost



Дэпутат турэцкага парламента, сустаршыня «Народнай дэмакратычнай партыі» (HDP), якая ў тым ліку выказвае інтарэсы курдскай меншасці краіны, выступіў на адной з партыйных канферэнцый з прамовай, у якой заклікаў Анкару надаць курдам аўтаномію. Прамова выклікала вялікі рэзананс у краіне, паколькі па сутнасці спікер падтрымаў праграму нелегальнай Курдскай рабочай партыі (PKK) — групоўкі, якая з сярэдзіны 1980-х гадоў дабіваецца правоў для курдаў з дапамогай узброенай барацьбы. Доўгі час HDP намагалася трымаць дыстанцыю ад баявікоў PKK, абмяжоўваючыся патрабаваннем пашырэння правоў мясцовага самакіравання. Радыкалізацыю курдаў паліталогі звязваюць з маштабнымі вайсковымі аперацыямі, якія з мінулага лета курдская армія вядзе ў зонах, што кантралюе PKK. Каментуючы выступ сустаршыні HDP, турэцкі прэзідэнт абвінаваціў яго ў здрадзе Турцыі. Эрдаган таксама заклікаў пракуратуру пачаць расследаванне супраць лідара курдаў па адпаведнаму артыкулу КК. Прычым высоўваецца ідэя ў рамках следства пазбавіць дэпутацкага імунітэту ўсіх 80 дэпутатаў ад HDP. Няма сумневаў, што апошняя падзея прывядуць да новай напружанасці ў Турцыі. Практычна ва ўсіх буйных турэцкіх гарадах ёсць курдская дыяспара, якая імкліва радыкалізуецца, праяўляючы гатоўнасць да непарламенцкіх метадаў барацьбы.

